© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

№ 21-22 (87) 23 чэрвеня 1997 г.

# НАША НІВА

беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску

## вучоба ў Вільні



Віленскі пэдагагічны ўнівэрсытэт на конкурсных падставах набірае студэнтаў на 1 курс факультэта славістыкі на спэцыяльнасьці:

беларуская мова, літаратура і гісторыя культуры;

беларуская і расейская мовы і літаратуры;

беларуская і польская мовы і літаратуры.

Навучаньне платнае.

Форма навучаньня: дзённая (4 г.), завочная (5 г.).

Прыём дакумэнтаў з 25.08.1997 да 01.09.1997.

1. Атэстат (арыгінал) альбо дыплём вышэйшае школы (выпіска).
2. Мэдычная даведка.
3. 4 фотакарткі (3x4)
4. Пашпарт.
5. Выпіска з працоўнае кніжкі (калі ёсьць).

Уступны іспыт — тэсты па беларускай мове.

Па даведкі, калі ласка, зьвяртацца на адрас:
Катэдра беларусістыкі ВПУ
Studentų, 39-527
Vilnius 2034
Lietuva
Тэл. у Вільні: 8-0122-725801, факс: 8-0122-260317. Тэл. у Менску: 8-0172-598563.

## Балотныя людзі



Peter Marsh — так назвалі навукоўцы цела чалавека, якое каля 2500 гадоў праляжала ў балоце пад Манчэстэрам. Піт Марш быў знойдзены летам 1984 году ў тарфяніку Ліндаў-Мос. Экскаватар, які капаў канаву, пашкодзіў ніжнюю палову трупа. Вехняя частка надзвычай добра захавалася, што дазволіла брытанскім дасьледчыкам ня толькі вывучыць зьмесьціва яго страўніка, але і паспрабаваць вылучыць гены старажытнага чалавека.

Піт Марш — адзін з соцень так званых "балотных людзей", якіх знаходзілі ў тарфяніках паўночна-заходняй Эўропы. Большасьць зь іх, закансэрваваных самой прыродай, амаль 20 стагодзьдзяў праляжала ў балотах...

*Артыкул Міколы Крывальцэвіча на старонках 4-5.*

АНОНС

## Оргіі талерантнасьці і мова Падпольля

У Турцыі і Расеі, ва Ўкраіне і Казахстане, у іншых краях, што сымулююць Эўропу, шмат хто ставіць тыя самыя пытаньні, якія задаем сабе мы. Але — пакуль — нідзе "рускі чалавек" не трыюмфуе гэтак відавочна, а эўрапейская меншасьць не пачуваецца такой ізаляванаю, малалікаю, расквашанаю на мажным целе Другой Азіі, як у Беларусі. Нідзе на блізкім далягляздзе няма такога адчуваньня мёртвага дому, адсутнасьці шанцаў, глыбокай унутранай дэзынтэграцыі і — пры гэтым — такіх монстраў талерантнасьці, як тут.

Каб абазначыць зыходны пункт разважаньняў, мушу зрабіць цытату з аднога ліста, які атрымаў у мінулым кастрычніку. "Шукаю суцяшэньня ў францускім віне і сьціплых спробах нешта напісаць. Усё цяжэй прымушаць сябе саўдзельнічаць у гэтых оргіях талерантнасьці". Напісаў гэта Ўладзімер Палупанаў, што стаў вядомым, на жаль, не як перакладчык Бальзака на беларускую мову, а як першы беларускі дыплямат, што адмовіўся вяртацца на несвабодную бацькаўшчыну. У дзьвюх гэтых фразах, як па-мойму, тоіцца шэраг думак, якія нельга абмінуць, дасьледуючы рэакцыі культурных людзей і культуры на трыюмф "рускага чалавека" або проста вызначаючы для сябе, якой моваи размаўляць з тым, што нас абкружае, але што пакуль яшчэ ня здолела прымусіць нас маўчаць. Але спачатку колькі словаў пра самога "рускага чалавека"...

*Артыкул Андрэя Дыньку ў наступным нумары "НН".*

ЛІТАРАТУРА

Яраслаў Гашак

## Дваццаць гадоў таму



Хросны бацька ўдалага ваякі Швэйка чэскі пісьменьнік Яраслаў Гашак у аўтабіяграфічным апавяданьні дае панараму падзеяў цяпер ужо стогадовай даўніны. Напрыканцы 1897 г. "истинно немецкий" горад Прага быў ахоплены хваляваньнямі "чэскіх экстрэмістаў". Дзьвюхгаловыя габсбурскія арлы — не адзіная лёгка пазнавальная рыса імпэрскага гвалту...

*На старонцы 15.*

Уладзімер Арлоў

## Я марыў стаць шпіёнам

Сёньня ня будзем гаварыць ні пра паэта, якога амаль год трымаюць у турме за легкадумны вершык, ні пра чыесьці спаленыя партрэты, ні пра новыя арышты.

Давай уявім, што там, за вакном, звычайная для Эўропы прыпозьненая вясна, і я раскажу табе якую-небудзь займальную гісторыю, штосьці такое, аб чым мужчына і жанчына, якія адчулі прыхільнасьць адно да аднаго і ўжо ня першы год адчуваюць яе да добрага чырвонага віна, могуць гутарыць цяпер за столікам кавярні недзе там, дзе разьлічваюцца кронамі альбо крэдытнымі карткамі.

Напрыклад?.. Напрыклад, калі пачынаць ab ovo, паслухай, кім я марыў стаць у дзяцінстве.

*Алавяданьне на старонках 12-14.*

ШУФЛЯДА

## Адзін дзень у арміі "Зялёнага Дуба"

Беларускі атаман Вячаслаў Адамовіч-малодшы ў 18-20-я гады ваяваў з падразьдзеламі бальшавікоў і вёў свой літаратурны дзёньнік пад псэўдонімам Дзяргач.

"... Хто гэты чалавек? Хто яго тутака паставіў, каго ён пільнуе? Ці можа гэта разбойнік выйшаў на дарогу, каб забіць каго? Ці можа паляўнічы жджэ дзіка, каб меткай куляй зваліць яго? Не, усё гэта ня так. Паставіла гэтага чалавека тут, сярод грэблі, нядоля, уклад усяго нашага цяперашняга жыцьця.

Прыгледзьцеся добра ў яго малады твар! Ці не пазнаеце ў ім таго, каго гоніць жыцьцё ў лес ад людзкой няпраўды? Ён моцна сьціснуў вінтоўку рукамі і плача душой ад горкай крыўды. Моцна б'ецца сэрца у грудзях... Ня ведама толькі, ці доўга? Няхай хоць гадзінку, абы яно білася за праўду, за родны край!.."

Літаратурны дзёньнік аднаго з камандзіраў "Зялёнага Дуба" атамана Дзергача разам з уступным артыкулам Ніны Стужынскай друкуецца на старонках 10-11.

ГІСТОРЫЯ

## Казакі ў беларускай традыцыі

Той, хто з блаславеньня цяперашніх уладаў прапагандуе казацтва і пад выглядам "адраджэньня" стварае ў нас казацкія фармаваньні, ня мае аніякага права спасылацца на традыцыю. У Беларусі як краіне, што жыла "па старыне", здавён заселенай сталым жыхарствам, з густою сеткаю гарадоў і мястэчак, сваёй казацкай арганізацыі папросту не існавала...

Артыкул Генадзя Сагановіча на старонках 4-5.




© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



АРХЕАЛЯГІЧНЫЯ АДКРЫЦЬЦІ СЬВЕТУ

# Балотныя

Мікола Крывальцэвіч



Галава Толундзкага чалавека.

“Некаторыя зь іх пры выяўленьні знаходзіліся ў такім стане, быццам былі пахаваныя зусім нядаўна”, — дзяліўся сваімі ўражаньнямі дацкі археоляг Пэтэр В. Глёб. Прысутнасьць у тарфяніках кісляты, а таксама нізкае ўтрыманьне кіслароду ў балотнай вадзе садзейнічалі дубленьню скуры і захаваньню трупаў. Праблемы ўзьнікалі пасьля выяўленьня “балотных людзей”. Толькі некаторых зь іх удалося захаваць, бо чалавечае цела пачынала адразу ж псавацца пад узьдзеяньнем атмасфэрнага кіслароду.

Як сьцьвярджаюць спэцыялісты, у балотах паўночна-заходняй Эўропы знойдзена каля 700 трупаў старажытных людзей. Большасьць “балотных людзей” датуецца першымі стагодзьдзямі нашай эры і знойдзеная ў Даніі. Іншых адшукалі ў Паўночнай Нямеччыне, Англіі, Уэльсе, Шатляндыі, Ірляндыі, Нарвэгіі, Швэцыі і нават у Цэнтральнай Эўропе.

Самая знакамітая знаходка — так званы Толундзкі чалавек...

## Толундзкі чалавек

Наведнікі Сількеборскага музэю, што ў Даніі, найперш зьвяртаюць увагу на тую частку выставы, дзе экспануецца закансэрваваная цёмнатварая галава чалавека. Трупу з Толундзкага балота амаль 2000 гадоў. “... Галава Толундзкага чалавека, — пісаў Пэтэр В. Глёб, — захавалася вельмі добра, лепей, чым любая з усіх чалавечых галоваў, якія ацалелі з старажытных часоў у розных месцах зямнога шара. Ступеныя павекі і паўадкрытыя вусны... Галава, здаецца, і цяпер захоўвае дыханьне даўно спыненага жыцьця”...

Труп знайшлі 8 траўня 1950 году. Два мужчыны, капаючы торф на Толундзкім балоце, нечакана ў яме натыкнуліся на чалавечы твар. Яны кінуліся клікаць паліцыю. Паліцыянты зьвярнуліся да археолягаў, бо адкрыцьці “балотных людзей” здараліся ў гэтай мясцовасьці і раней. З Орхускага ўнівэрсытэту на месца незвычайнай знаходкі прысхаў Пэтэр В. Глёб — адзін зь вядучых спэцыялістаў у дагісторыі Ютляндыі. “... Я аказаўся твар у твар з чалавекам жалезнага веку, які трапіў у тарфянік каля двух тысячаў гадоў назад. — Успамінаў пазьней прафэсар, — Ён ляжаў на правым баку ў позе соннага, галавою на захад, нагамі на ўсход, тварам на поўдзень. Пахаваньне знаходзілася на глыбіні 2,5-3 м ад паверхні тарфяніка і на адлегласьці 50 м ад цьвёрдай глебы. На галаве ў трупа была вostраканечная скураная шапка, замацаваная пад падбародзьдзем раменьчыкам, стан ахінала гладкая скураная папруга. Адзеньня на ім не было. Валасы на галаве былі каротка падстрыжаныя, шчокі — чыста паголеныя, хоць падбародзьдзе і верхняя губа пасьпелі пакрыцца кароткім шчаціньнем. Шыю трупа сьцягваў рэменьудаўка, сплецены з дзьвюх скураных стужак; тугая пятля ўрэзвалася ў горла, а вольны канец, зьвіваючыся як зьмяя, спадаў уніз па плячы і па сьпіне”.

У драўлянай скрыні Толундзкага чалавека прывезьлі ў Нацыянальны музэй, што ў Капэнгагене. Экспэрты, якія дасьледавалі труп, прыйшлі да высновы — чалавека ня проста задушылі скураною вяроўкаю, а павесілі. Пад час сьмерці яму было крыху болей за 20 гадоў. У кішэчніку і страўніку Толундзкага чалавека захаваліся рэшткі ежы, якую ён спажыў прыблізна за дваццаць гадзінаў да сьмерці. У складзе яе не было аніякіх сьлядоў мяса ці рыбы. Чалавек еў поліўку зь ячменнага зерня, насеньня лёну ды іншых травяністых расьлін.

## Чалавек з Граўбале

Знойдзенае ў красавіку 1952 году каля Граўбале, у Нэбэльгардзкіх балотах цела старажытнага чалавека сёньня можна пабачыць у Дагістарычным музэі дацкага горада Орхус. Кансэрвацыя адшуканага ў торфе чалавека з Граўбале была зробленая ў лябараторыі паводле мэтаду “дубленьня ў яме” з выкарыстаньнем дубовай кары.

Нэбэльгардзкія балоты разьмешчаныя за 18 км ад Толунда. Знойдзены ў тарфяніку чалавек загінуў у пэрыяд паміж 210 і 410 гадамі. Такая дата сьмерці была ўстаноўленая паводле радыёвугляроднага датаваньня пячонкі і цяглiцаў чалавека, а таксама ў выніку аналізу пылку кветак.

Цела чалавека з Граўбале параўнальна добра захавалася. Праўда, пад цяжарам пластоў торфу яно моцна сплюшчылася. На ім не было адзеньня і ніякіх іншых рэчаў. Горла чалавека ў старажытнасьці ад вуха да вуха перарэзалі нажом, што і сталася прычынаю ягонай сьмерці. На момант гібелі мужчыну было каля 30 гадоў.

Перад сьмерцю ён быў паголены, хоць над верхняй губою і на падбародзьдзі ўжо пасьпела прабіцца шчацьцё. Чалавек насіў доўгія валасы. Як і мужчына з Толундзкага балота, незадоўга да пагібелі ён спажыў поліўку зь зерня і насеньня. Дарэчы, спэцыялісты, аналізуючы віды расьлін, якія ўваходзілі ў слад ежы чалавека з Граўбале, адзначылі, што ён харчаваўся расьлінамі, здабытымі зімою ці раньняю вясною. Гэта дазваляе дапусьціць, што няшчасьнік сустрэў сваю сьмерць у зімова-вясновы час.

Гундэструпскі кацёл.



## Піт Марш і каралева Гунхільда

У жніўні 1984 году ў тарфяніку Ліндаў-Мос, што на поўдзень ад Манчэстэра, было знойдзена цела чалавека, якое праляжала ў балоцее каля 2500 гадоў. Знойдзенаму чалавеку надалі імя Піт Марш (marsh у ангельскай мове азначае “балота”). Цела было пашкоджанае каўшом экскаватара, але, на шчасьце, засталася некранутаю яго верхняя палова.

Для вывучэньня і кансэрвацыі “балотны чалавек” трапіў у Брытанскі музэй. Піта Марша дасьледавала вялікая група навукоўцаў, у склад якой уваходзілі спэцыялісты ў судовай мэдыцыне, дэрматалёгіі, анатоміі, мікрабіялёгіі і батаніцы. Чалавек меў рост 167 см. Памёр ва ўзросьце 20-30 гадоў. Гэта быў мужчына з рудымі вусамі, барадою, бакенбардамі і акуратна падстрыжанымі пазногцямі.

Для таго, каб захаваць Піта Марша, было вырашана замарозіць тыя рэшткі вады, якія засталіся ў яго целе, каб пазьней выпарыць крышталікі лёду ў вакуўмнай камэры. Ад некаторых спэцыялістаў гучалі прапановы вылучыць зь яго цела гены ды вырасьціць іх у лябараторных умовах.

Калі Піт Марш набыў вядомасьць у наш час, то іншая знаходка “балотнай жанчыны”, т. зв. каралева Гунхільда стала знакамітаю ў XIX ст. Яе знайшлі ў 1837 годзе на тэрыторыі Даніі ў Харальдзк’еры. Цела атаясамілі з нарвэскай каралевай Гунхільдай, якую, як вядома, у сярэднявечны ўтапілі ў багне. Труп высушылі і зьмясьцілі ў труну, якую падарыў з гэтае нагоды сам кароль Фрыдрык VI. Цела ў такім выглядзе і дагэтуль захоўваецца ў г.

Генадзь Сагановіч

# Казакі ў беларускай

Той, хто з блаславеньня цяперашніх уладаў прапагандуе казацтва і пад выглядам “адраджэньня” стварае ў нас казацкія фармаваньні, ня мае аніякага права спасылацца на традыцыю. У Беларусі як краіне, што жыла “па старыне”, здавён заселенай сталым жыхарствам, з густою сеткаю гарадоў і мястэчак, сваёй казацкай арганізацыі папросту не існавала. У адрозьненьне ад Украіны, дзе казацтва было народжанае спэцыфічнымі ўмовамі і абставінамі — вольным, бязьлюдным стэпам ды пастаяннай небясьпекай, або Расеі. Гісторыя засьведчыла, што аўтэнтычнае казацтва ў нас і не магло зьявіцца. Хоць сваіх казакоў тут ведалі з XVI ст., — служылых, замкавых, сялян-слуг (як баяры панцырныя, путныя), што за надзел зямлі несьлі вайсковую службу, або казакоў як тып войска (коньніца, узброеная па-казацку), гэта была не арганізацыя, і іх нельга блытаць з Запароскімі ці якімі-небудзь Яіцкімі.

Уласна беларуская гістарычная традыцыя, асабліва раньняя, фіксуе досыць адмоўны вобраз казака. Само слова “казацтва” ў разуменьні сярэднявечных беларусаў апрача службы азначала і рабаваньне. Прыкладам, сучасьнік Васіля Цяпінскага мог пісаць, што хадзіў “в козацтво под Смоленск, и там есмо достали сполне кобыл две, робят москолят — два, овчын двадцат чотыры”. Гэткія дзеяньні і ўмацавалі стэрэатып успрыманьня казака як гвалтаўніка.

Упершыню крыніцы загаварылі пра насільлі запарожцаў на нашых землях пад 1590 годам. Што істотна, усё пачалося ў зусім мірным часе, бо Вялікае Княства тады ні з кім вайны не вяло. Першым разгуляўся атаман Мацюша Федаровіч, аддзел якога (500 чалавек) у лютым “наехавши кгвалтовне на именье их милости панов Ходкевичов, до места Быховского,... земян, бояр, мещан их милости Быховских побили, поранили, маетности их побрали”. Іншая купа казакоў наляцела на сяло Халстова, што пад Быхавам, у якім “подданых всех с жонами и з детми с села прочь разогнали и село Холстово спустошили”. Згадвае Мацюшу і Магілёўская хроніка, гаворачы, што ў 1590 г. “якісь казак, або гультай невідома адкуль, па прозьвішчу Мацюша з войскам прыйшоў да Магілева, чынячы вялікія шкоды,... аднак пан Бог места зьбирог”. Толькі аўтар Баркулабаўскага летапісу, падобна, ня ведаў пра гвалты пад час першага наезду, бо, запісаўшы пра зьяўленьне запарожцаў Мацюшы, якія аж да Менску выбіралі стацыі ў воласьцях, ён адзначыў, што тыя “крыўды і шкоды не чынілі”, толькі “жонак і дзевак” забралі з сабою дзьвесьце галоў. Затое ў Запісках ігумена Орэста наезд Мацюшы на Магілёў паказаны выключна змрочна.

З 1590-х гадоў паходы казакоў на Беларускае Падняпроўе зрабіліся пэрманэнтнымі. Ужо ў 1593 годзе на Віленскім зьезьдзе паслы Мазырскага павету скардзіліся, што запарожцы даўно чыняць “вялікія шкоды і ўціскі людзям народу шляхецкага”, прасілі абароны і патрабавалі караць разбойнікаў. Самым значным на той час стаў вядомы паход Севярына Налівайкі ў 1595 годзе, пра які апавядаюць практычна ўсе вядомыя нарматыўныя помнікі беларускага паходжаньня. Адметна, што ўсіх аўтараў лучыць нэгатыўнае стаўленьне да дзеяньняў Налівайкі. Стрыманая ацэнка толькі ў Тодара Еўлашэўскага. Не падаючы дэталяў, ён піша адно, што “Наливайко, козак, собравши войско козаков”, прыйшоў да Петрыкава, “своволне все починаючи”, але пад Капылём гайдукі Радзівіла “так справне казаков настреляли”, а потым казацкі атаман “Могилев моцно добыл, места и замку сплендровал и попалил”. Адчуваецца, што навагрудзкі падсудак прынамсі не ўхваляе тэрарызм запарожцаў, хоць і не фармулюе гэта катэгарычна. Магчыма, шмат чаго ён проста яшчэ ня ведаў, бо, як зазначана ў іншых крыніцах, і ў самым Слуцку Налівайка даўся ў знакі, прымусіўшы мяшчан выплаціць 5 тысячаў коп літоўскіх грошаў, і на Случчыне ягоныя малойцы “нямала шкоды многім людзям учцівым і брацьці” ўчынілі, не гаворачы ўжо пра Магілёў.

Затое для Баркулабаўскага летапісу і Магілёўскай кронікі Налівайка адназначна бандыт. Першы піша з цалкам выразным асуджэньнем: “Место славное Могилев, место побожное, домы, крамы, острог выжгли, домов всех яко 500, а крамов з великими скарбами 400. Мещан, бояр, людей учтивых так мужей, яко и жен, детей малых побили, порубили, попоганили, скарбов теж незличоных побрали с крамов и с домов”. І для Сурты, праваслаўнага магілёўскага храніста, які варожа ставіўся да ўніятаў, Налівайка таксама разбойнік: “Зноў на Магілёў інкурсія наступіла ад Налівайкі. Таксама невядома, зь якіх гэта было прычынаў, ці з гультайства, ці з маскоўскага найму... Старэйшыя людзі згадвалі часта Налівайку, Мазэпу, Лабаду. Не дарэмна ж тое з памяці не выходзіла людзям, мусіла тая саранча на нова сабранае аседлае места, шкоды нязносныя і крыві праліваньне чыніць... Той Налівайка Магілёў зрабаваў і цэрквы папаліў”. І іншымі крыніцамі засьведчана, што ў Магілёве тады запарожцы перабілі ўсіх тых, хто прaвіў супрацiў, захапілі і разрабавалі дамы праваслаўнага духавенства, зьнішчылі шмат дакумэнтаў, якія зьберагаліся ў цэрквах.

Цытаваныя аўтары фактычна салідарныя з арганізатарам выгнаньня Налівайкі зь Беларусі гэтманам Крыштапам Радзівілам, які пісаў пра казакоў атамана як пра “злых людзей, якія рабуюць сваю айчыну і праліваюць бязьвінную людзкую кроў”. Нават у выданьнях беларускага фальклёру ўдалося знайсьці глухі водгук на тыя далёкія падзеі.

*Ой, у горадзе Магілеве дымам пацягнула,*
*Як то войска Запароска з гармат да раўнула.*
*Ой, у горадзе Магілеве да сталася пуста,*
*Як павеялі казакі з самапалаў густа, —*

згадваўся прыход Налівайкі ў падняпроўскі горад у адной зь беларускіх народных песьняў.

Таго ж году, ужо пасьля Налівайкі, на паўднёвым усходзе Беларусі зьявіўся атаман Мацьвей Шавула, які таксама нарабаваўся і на зіму застаўся ў Прапойску. А пасьля пачатку вайны са Швэцыяй, у якой бралі ўдзел і запарожцы, праз Беларусь сталі часта праходзіць буйныя фармаваньні рэестравых казакоў. Паводле Баркулабаўскага летапісу, у 1601 годзе яны на швэдзкай вайне “нічога не дапамаглі, толькі вялікую шкоду гаспадару [вялікаму князю] учынілі, бо места слаўнае, места багатае Віцебск заваявалі, мяшчан пабілі, паннаў паплюгавілі, скарбы пабралі, многае мноства людзей пасеклі, нялічаныя скарбы пазабіралі”. Далей распавядаецца, як таго ж году,



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# ЛЮДЗІ

Вайле ў падземным склепе царквы сьв. Міколы. У наш час высьветлілася, што жанчына была ўтопленая ў балоце ў першых стагодзьдзях эры і сталася, такім чынам, яшчэ адным "балотным чалавека" жалезнага веку.

Захавалася паведамленьне пра тое, як у Ірляндыі ў 1780 годзе каля гары Драмкераг у тарфяным балоце знайшлі пахаваньне старажытнай арыстакраткі, цела якой пакоілася на трох коўдрах з воўны. На жанчыне была багатая сукенка з тонкай тканіны чырвонага зь зялёным колерамі.

Да нашага часу ў тарфяніку Борэ ляжала цела яшчэ адной жанчыны эпохі жалеза. Кабета разьмяшчалася на спэцыяльнай падсьцілцы зь бярозавай кары. Верхняя палова яе цела была голая, а ніжняя прыкрывалася коўдраю з воўны. Побач знайшлі яшчэ адзін труп — мужчынскі. Чалавек апынуўся ў балоце пасьля таго, як быў павешаны ці задушаны. На шыі ахвяры засталася вяроўка, зацягнутая пятлёю. Патыліца мужчыны была моцна пабітая. На задушаным не знайшлі нічога, акрамя вяроўкі. Толькі каля ног ляжалі два тоўстыя скруткі, якія аказаліся накідкамі з кавалкаў аўчыны.

На адным з астравоў цяпер ужо знакамітага тарфяніка Борэ дацкія археолягі раскапалі вёску эпохі жалеза, у якой, ня выключана, маглі жыць "балотныя людзі". Гэта было традыцыйнае для раньняга жалезнага веку Ютляндыі паселішча, у якім налічвалася каля 20 будынкаў. Розных памераў хаты, складзеныя з торфу і крытыя саломай ці верасам, разьмяшчаліся на абодвух баках адной вуліцы. Пабудовы мелі дзьве паловы. У адной зь іх жылі людзі, а ў другой утрымлівалася свойская жывёла.

Да шэрагу дзіўных палоньнікаў балота Борэ належыць яшчэ адна археалягічная знаходка — Гундэструпскі кацёл. Вялікую срэбную пасудзіну знайшлі тут больш за сто гадоў назад. Паводле меркаваньня некаторых спэцыялістаў, кацёл можа стаць адным з ключоў да разгадкі абставінаў сьмерці "балотных людзей".

## *Ахвяры багіні Нэртус?*

Гундэструпскі срэбны кацёл быў зроблены недзе ў паўднёва-усходняй Эўропе прыблізна 2000 гадоў назад. На тэрыторыі Ютляндыі, як мяркуюць спэцыялісты ў жалезным веку, ён трапіў у якасьці ваеннага трафэя. У багне Борэ кацёл апынуўся прыблізна ў той самы час, калі прорва прыняла "балотных людзей", і гэтае храналягічнае супадзеньне не выпадковае. Аказалася, што кацёл мае ня толькі вялікую матэрыяльную, але й духоўную каштоўнасьць. Сьценкі пасудзіны ўпрыгожаныя шматлікімі міталягічнымі выявамі — рэльефамі ў выглядзе рэлігійных шэсьцяў, сцэн ахвяпрынашэньняў, зааморфных істотаў, багоў... Сярод апошніх скандынаўскія мітолягі знаходзяць тыя боствы, якія карысталіся папулярнасьцю ў Ютляндыі ў часы жалезнага веку. Ці ня быў Гундэструпскі кацёл прынесены ў якасьці ахвяры багам? Якое бостава было вартае такога каштоўнага прынашэньня?

У I ст. вядомы рымскі гісторык Тацыт, апісваючы германскія плямёны, згадваў іх вярхоўную багіню — Маці-Зямлю ці інакш Нэртус. На запрэжанай быкамі калясьніцы Вялікая Нэртус выяжджала са сьвятога гаю, абуджаючы сьвет і прыносячы плоднасьць Зямлі. Калясьніцу і багіню, пісаў далей Тацыт, купалі ў вадзе возера, пра месцазнаходжаньне якога ніхто ня ведаў. Абмываньне зьдзяйсьнялі спэцыяльныя рабы і служкі, якіх потым тапілі ў возеры.

Вучоныя, зьвяртаючы ўвагу на гэтую частку твору Тацыта, мяркуюць пра верагоднасьць прынашэньня "балотных людзей" у якасьці ахвяраў багіні Нэртус. Праўда, ня ўсе знойдзеныя ў трафяніках людзі — дар для Нэртус. Той жа Тацыт, пішучы пра звычаёвае права германцаў, распавядаў, як тыя каралі сьмерцю злачынцаў. У прыватнасьці здраднікаў і перабежчыкаў яны вешалі на дрэве, а баязьліўцаў кідалі ў багну.

Думка пра ахвярапрынашэньне "балотных людзей" Маці-Зямлі, тым ня менш, рацыянальная. На карысьць гэтага спэцыялісты прыводзіць цэлы шэраг аргумэнтаў. Адзначаецца, напрыклад, што большасьць знойдзеных трупаў мае сьляды гвалтоўнай сьмерці. Звычайна ахвяраў душылі ці забівалі нажом, а ўжо потым хавалі ў балоце. Магчыма, такія ды некаторыя іншыя спосабы зьмярцьвеньня людзей былі часткаю вельмі важнага рытуалу ахвярапрынашэньня.

У зьвязку з гэтым варта нагадаць, што ў страўніках "балотных людзей" захаваліся рэшткі спэцыяльнай расьліннай ежы, спажываньне якой незадоўга да сьмерці было, мусіць, складовым этапам абраду.

З вывучэньня зьнешняга выгляду некаторых ахвяраў, вынікае яшчэ адна цікавая акалічнасьць. Многія памерлыя мелі надзвычай добра дагледжанае цела. На іхных руках ня бачна сьлядоў цяжкай фізычнай працы. Далоні без мазалёў. Пазногці падрэзаныя. Перад зьмяшчэньнем у багну чалавека звычайна галілі і распраналі. Спадарожнікамі Нэртус маглі стаць не абыякія людзі.

Акрамя ўсяго іншага, прынашэньне часам суправаджалася спэцыяльным прыгатаваньнем ахвярнага месца, якое ўсьцілалася коўдрамі, бяростаю. Дарамі для Маці-Зямлі маглі быць ня толькі людзі, але й рэчы. Згадайма каштоўны Гундэструпскі срэбны кацёл. У якасьці падарункаў выступалі таксама бранзалеты, каралі, якія зрэдку знаходзяць у тых жа тарфяніках. Людзі эпохі жалеза шанавалі пэўныя месцы зямлі і вады, надаючы ім вельмі важнае значэньне ў паяднаньні з Нэртус.

***

Цяжка казаць пра тое, зь якімі пачуцьцямі "балотныя людзі" ішлі да Вялікай Багіні Маці-Зямлі. Мусіць яны шчыра верылі ў яе дабрадзейную моц, а таму ўвесь рытуал прынашэньня сябе ў ахвяру лічылі за шчасьце. Дрыгва прыняла іх, зрабіўшы неверагоднае: амаль 2 тысячы гадоў захоўвала іх целы для нашчадкаў.

*Толундзкі чалавек.*



# традыцыі

уцёкшы са Швэцыі, 4 тысячы казакоў "Полацку вялікую шкоду чынілі", Віцебск зваявалі, а дзейнічалі "горш злых непрыяцеляў або злых татараў". Яшчэ больш нацярпеўся край ад запарожцаў у 1603 годзе. Выяжджаючы зь беларускіх гарадоў, яны "вялікую моцную шкоду па сёлах, па местах чынілі: жонак, дзевак і дзяцей з сабою многа брали", а таксама адбіралі коняў. Аўтар Баркулабаўскага летапісу ўдакладняе, што кожны казак браў з сабою па 10-12 коняў, 3-4 дзіцяці і 2-3 жанчыны ці дзеўкі. У Магілёве, дзе "весяліліся" запарожцы атамана Івана Куцкі, мешчанін вынес на пляц "на руках своих девчину, у шести летах, замордованую и згвалчоную", гледзячы на якую "вси люди плакали..."

Гады "дзімітрыяды", калі ў Рэчы Паспалітай упершыню сур'ёзна праявілася крыза дзяржаўнай улады, сталі чарговым этапам актыўных наездаў украінскіх казакоў на землі Вялікага Княства. Гэтым разам цярпелі ўжо і цэнтральныя ды заходнія паветы Беларусі. Навагрудзкая шляхта ў інструкцыі сваім паслам на Варшаўскі сойм у 1613 годзе з жалем канстатавала, што Айчына "ня раз перад тым і цяпер казацкім нападам як непрыяцельскім утрапёная", што "ў многіх месцах мястэчкі і вёскі дашчэнту як пасьля эпідэміі і пастаронняга непрыяцеля спустошаныя". Быццам пажога праносілася па краі. Гэтак у 1615 годзе гаспадарыў у Слоніме і ваколіцах казацкі аддзел на чале з атаманамі Чалятркам, Каробкам і Камяноўскім. Праўда, мяшчане добра арганізавалі абарону і нанесьлі ім паразу, пасьля чаго разьбітыя казакі адступілі ва Ўкраіну.

Казацкая актыўнасьць, "наступ людзей размаітых свавольных і казакоў нізавых на Айчыну" зьвязваліся непасрэдна з ваенным часам і ўнутрыдзяржаўнай нестабільнасьцю. Колькасна банды, што ўрываліся ў Беларусь, сягалі 20 тысячаў. Супраць такой сілы ў той сытуацыі проста не было што выставіць. Гарады мусілі пільнавацца самастойна. Невыпадкова менавіта на небясьпеку з боку запарожцаў спасылаліся мяшчане Магілёва пад час судовага разбору іх вядомага канфлікту з полацкім уніяцкім арцыбіскупам Язафатам Кунцэвічам, калі ў 1618 годзе пад прысягай сьцьвердзілі, што закрывалі брамы горада і ставілі гарматы на сьцены ня супраць уладыкі, "а баючыся нападу свавольных казакоў Сумы", супраць якіх "мусілі ўмацаваць горад гарматамі і ўзброенымі людзьмі". Зь іншых крыніцаў вядома, што таго году ў ваколіцах Воршы і Магілёва сапраўды дзейнічалі "свавольныя людзі".

Што праўда, пасьля абвастрэньня канфэсійнага антаганізму, зьвязанага з уніяй, стаўленьне да запарожцаў на ўсходзе і поўначы Беларусі пачало было мяняцца да лепшага. Праваслаўныя мяшчане спадзяваліся на дапамогу ўкраінскіх казакоў як арганізаванай ваеннай сілы. Але ўжо пасьля выданьня "Артыкулаў заспакаеньня грэцкай веры" і залагоджваньня канфлікту радыкалізм беларускага мяшчанства спаў. Яно спадзявалася ў асноўным на магчымасьць палепшыць становішча праваслаўя законным шляхам, праз ухвалы сойму. І дзеяньні казакоў, якія выглядалі за абаронцаў праваслаўнай веры, успрымаліся хутчэй ня ўхвальна. Іх зьяўленьне ў Беларусі ў многіх сялян выклікала страх. Адметна, што ў інвэнтары Бабруйскага староства (1638) пушкарам уводзілася ў абавязак абараняць горад ад "свавольных людзей", якія "ў гэтых краях часта стаяць за зьнешняга непрыяцеля".

Шырокая падтрымка казакоў сацыяльнымі нізамі Беларусі сталася гістарычным фактам толькі ў гады паўстаньня Багдана Хмяльніцкага. Але і тады далёка ня ўсё чынілася ў згодзе. Хмяльніцкаму адно часткова ўдалося перанесьці казацкі рух вышэй Прыпяці. Ён разьвіваўся тут настолькі, наколькі інсьпіраваўся старшынём Запароскага войска, а ядром паўстанцаў заставаліся казацкія аддзелы з Украіны. У Бабруйску ў 1649 годзе мяшчане фактычна здалі казакоў войску Радзівіла, калі адкрылі яму браму горада. Не ставала паразуменьня паміж казакамі і мяшчанамі ў Гомелі ў 1651 годзе. А гетман Радзівіл арганізаваў полк зь беларускай праваслаўнай шляхты і мяшчан, якія дапамагаў яму граміць паказачаных.

Толькі ў выніку экспансіі запарожцаў на паўднёвы ўсход Беларусі ў сярэдзіне XVII ст. гэтыя раёны былі ўлучаныя ў склад тэрыторыі палкоў Хмяльніцкага. Але пра якую-небудзь трываласьць гэтага ўлучэньня гаварыць не даводзіцца. На Палесьсі ў тыя гады не знайшлі асаблівай падтрымкі ні Грышка Чорны, ні іншыя атаманы. Лютасьць загонаў наказнога гетмана Васіля Залатарэнкі, прысланага ў Беларусь на дапамогу маскоўскаму войску ў 1654 г., неўзабаве сфармавала адмоўны вобраз чаркасаў нават у вачах простых людзей. Бо вельмі ж часта Залатарэнка рапартаваў цару, што ягоныя казакі чарговы горад "без остатку сожгли", а жыхароў — "под мечь пустили".

Адзінай мясцовай арганізацыяй казакоў (чытай — паказачаных сялян) стаў Беларускі полк Канстанціна Паклонскага. Арганізаваны на Магілёўшчыне ў 1654 г., ён праіснаваў да сярэдзіны наступнага году. Але не забывайма, што ствараўся полк па заданьні і пад апекай маскоўскага цара, і нават утрымліваўся на сродкі царскай казны. А мужыкоў у яго запісвалі пераважна пад прымусам. Не выпадкова і ўся гісторыя гэтага фармаваньня такая караценькая.

Пасьля Паклонскага так званы Беларускі казацкі полк атрымаў Залатарэнка, а потым — Іван Нячай. Беларускай засталася толькі назва. Нячай напрасткі падпарадкоўваўся Багдану Хмяльніцкаму, затым — Выгоўскаму. Хмяльніцкі лічыў гэты полк часткай Запароскага войска і не выпускаў тэрыторыю яго размяшчэньня — Беларускае Падняпроўе — са сфэры сваіх інтарэсаў. І нават у Магілёве сотні гэтага фармаваньня складалі ня толькі мясцовыя жыхары, але ў значнай ступені і ўкраінцы. Палкоўнік Нячай меў традыцыйна варожыя дачыненьні з усёй мясцовай шляхтай, незалежна ад яе веравызнаньня. Ці ня столькі ж цярпелі ад яго людзей і беларускія мяшчане ды мужыкі. Затое аддзел Дзяніса Мурашкі, укамплектаваны пераважна зь беларускіх сялян, Нячай прынцыпова не прызнаваў часткай свайго палка.

Але і Нячаеў полк неўзабаве зьнік з Падняпроўя. У 1659 годзе акупацыйныя царскія ўлады канчаткова зьліквідавалі казацкія залогі ў Беларусі. Калі нехта з беларусаў упарціўся і жадаў застацца ў казаках, то мусіў сыходзіць зь іх палкамі ва Ўкраіну.

Так што пра беларускае казацтва гаварыць неяк не выпадае. Хіба што пра полк Паклонскага, што мільгануў такім яркім эпізодам. Толькі трэба ўлічваць, што "беларускі палкоўнік" Паклонскі хацеў быць вольным сабе ў сваім краі і ад украінскага гетмана, і ад маскоўскага цара.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



ТЭЛЕ І РАДЫЁ

# Якога вам гімну ў эфіры?

Днямі мне прысьніўся кашмарны сон. Раніцою я прачынаюся ў сваёй кватэры не ад сьпеву любімага папугая Крошы; і не ад шуму першага тралейбуса, што нясецца зь недалёкага парку; і не ад паху кавы, якую з эгаістычных матываў і ў выхаваўчых мэтах навучыла гатаваць сына-падлетка; і не ад шолаху газэт, якія зь цёмнага рана "паядае" муж-калега. А ад пачутых з кухні, здавалася, даўно забытых гукаў гімну Савецкага Саюзу. Прачнуўшыся, я некалькі сэкундаў згадвала пра разэтку ад радыёкропкі, якую гадоў пятнаццаць таму зрэзалі за непатрэбнасьцю (астатняя радыёапаратура, дзякуй Богу, не асацыюецца з гэтымі гукамі), і высьветліла, што гэта быў сон. Кажуць, каб сны не збываліся — іх трэба расказваць, што я і зрабіла. Але пасьля тэлерэпартажу зь Берасьця, дзе засядалі саюзныя парлямэнтары, зразумела — не дапамагло. І адсутнасьць радыёкропкі не дапаможа, бо ў краіне вядзецца татальная барацьба за стварэньне эфірна-жыцьцёвай прасторы для таго самага гімну: "Союз нерушимый республик свободных сплотила навеки великая Русь".

Пра неабходнасьць стварэньня ў нашай краіне другога нацыянальнага тэлеканала казалі яшчэ дэпутаты дванаццатага — самага доўгага ў гісторыі беларускага парлямэнтарызму — скліканьня ВС. Доўга казалі, вырашалі, якім ён будзе, тэлеканал, у чые рукі патрапіць. Тады здавалася, што яго зьяўленьне ня толькі ўраўнаважыць колькасьць інфармацыі з расейскіх электронных СМІ, але і дазволіць стварыць сапраўды нацыянальную тэлевізію. Мінула некалькі гадоў і задуму першых законатворцаў увасабляюць у жыцьцё сучасныя лідэры і, як не парадаксальна, з падобнай жа мэтай — ураўнаважыць балянс паміж "чэснай" (атэзнаўскай) і "нячэснай" (расейскай) падачай інфармацыі. Але тэлевізія справа ня толькі клопатная, але й дарагая.

Пакуль тое, у вясноска-летнім беларускім эфіры зьявіліся яшчэ дзьве радыёстанцыі. Зноў загучала некалі папулярнае ў Маскве, але збанкрутавалае Радыё Рокс. Перабраўся ў Менск і ягоны вядучы Валеры Туз, на адрас якога апошнім часам усё часьцей чуваць папрокі ў неаб'ектыўным (прарасейскім) падыходзе да адбору інфармацыі. Банкрут творчы, міжрэгіянальная тэлерадыёкампанія "Мир" (створаная краінамі-удзельніцамі Садружнасьці) празь нізкі ўзровень праграм пазбавілася сёлета тэлеэфіру на ОРТ, што не перашкодзіла яму, банкруту, загучаць у беларускім радыёэфіры, а з дапамогай спадарожнікавай сувязі — і на ўсёй пост-савецкай прасторы.

Падобна, што мара цяперашняга прэзыдэнта пра бесправадное радыё і пра радыёпрыёмнічак з адной — першай — праграмай для кожнай сям'і састарэла, а таму працягваецца засваеньне эфэмаўскіх прастораў. "Лукамол" другі месяц ірвецца ў эфір. Тое, што ён галоўны і адзіны прэтэндэнт на дыяпазон 101,2, было зразумела з таго самага дня, калі неўзабаве пасьля закрыцьця Радыё 101,2 прэзыдэнт заявіў, што нікому не дазволіць праводзіць антыдзяржаўную палітыку на дзяржаўнай хвалі, пакасьцяў, маўляў, і на дзяржаўным радыё хапае. Але Беларускі патрыятычны саюз моладзі, зрэшты, як і тэлекампанія "Мир", не выклікае сумневаў у галавы дзяржавы. Таму ўжо цяпер можна ўявіць, што чарговы раз беларускае аддзяленьне тэлекампаніі "Мир" будзе выкарыстанае ў інтарэсах прэзыдэнта.

Першым часам былы дырэктар аддзяленьня, дэпутат Іван Пашкевіч папросту прапаноўваў калегам з Авальнае залі прыняць ягоную прапанову пра стварэньне на базе тэлекампаніі "Парлямэнцкай гадзіны". Але, стаўшы галавой адміністрацыі прэзыдэнта, Іван Іванавіч прылюдна загаварыў пра стварэньне другога нацыянальнага (?) тэлеканала... на базе ўсё таго ж "Мира". Гэтае пытаньне ўсур'ёз абмяркоўвалася ў адміністрацыі, але не з прадстаўнікамі краін Садружнасьці, г. зн. — заснавальнікамі, і не з Казахстанам, у прыватнасьці (асноўным фінансістам тэлерадыёкампаніі).

Днямі ў Берасьці быў агучаны яшчэ адзін тэлепраект. Саюзныя парлямэнтары вырашылі стварыць усесаюзную тэлевізію! Цікава, ці будзе яна называцца "Мир"? Зюганаву бачыцца працоўная (у сэнсе "с миру по нитке...") тэлевізія на ўвесь ССР. І генэрал Лебедзь выяўляе клопат пра тэлеканал "Содружество". Усе яны разьлічваюць і, пакуль на словах, знаходзяць маральную падтрымку ў Беларусі, якая стала "мэккай" усесаюзнага тэлевяшчаньня, дзе ўсім радыя, нікому, акрамя сваіх, не адмаўляюць, бо ў хуткім часе давядзецца нечым запаўняць эфір БТ-2, стварыць які прэзыдэнт ужо вырашыў.

Такім чынам, атрымліваецца: БТ, плюс 2-гі канал, плюс першая і другая праграмы беларускага радыё, а да іх "Мир", БПСМ... І на ўсіх хвалях будзе гучаць гімн (а як жа безь яго?). А што будзе, калі да іх у мэтах самазахаваньня далучацца радыё Би-Эй і Рокс? Сон стане явай.

**Алена Лукашэвіч**

ПАМЯЦЬ

# Незваротны маскоўскі сюжэт

Я ня вельмі люблю ехаць на маскоўскім мэтро. Асабліва ў гадзіны пік, і асабліва па Кальцавой вакзальнай лініі. Штурханіна целамі ды торбамі на двухсотмэтровай глыбіні задавальненьня не прыносіць. Таму, штораз даючы сябе засмактаць эскалятару ў тое пекла, думаю толькі аб тым, як хутчэй вырвацца на паверхню.



Тым разам была таксама пікавая гадзіна, толькі да ўсяго было яшчэ наймярзотнейшае восеньскае надвор'е. Мне трэба было з "Камсамольскай" на "Беларускую". Але, калі я зайшоў у вагон, то адразу адчуў нешта незвычайнае. Пасажыраў было надзіва няшмат, і ўсе яны прыязна ўсьміхаліся. Для Масквы такая карцінка — поўны сюр. У чым была справа, я адразу не зразумеў. Толькі інстынктыўна агледзеў сваё адзеньне, але нічога, што магло б насьмяшыць, дзякуй Богу, не заўважыў. Нічога не зразумеўшы, я праціснуўся ў цэнтар вагону і нарэшце заўважыў "виновника торжества". Ля крайніх дзьвярэй стаяў ды чытаў газэту Булат Шалвавіч Акуджава.

Дасюль дзякую свайму розуму, які не дазволіў мне падысьці да яго зь нейкімі глупствамі кшталту: "Ах, как мы Вас все любим" ды "нельзя ли автограф?" Акуджава сыйшоў на сваім "Праспэкце Міру", дзе, як сам напісаў, "в Безбожном переулке хиреет мой талант". А мы паехалі далей. Працягваючы пасьміхацца адзін аднаму. На імгненьне я адчуў атмасфэру той яшчэ Масквы, пра якую шмат начуўся ад бацькі. Атмасфэру адкрытага гораду, дзе размова з выпадковым спадарожнікам магла скончыцца простым вырашэньнем праблемы "перакантавацца", а знаёмства з прыгожай студэнткаю — сумесным паходам у Палітэхнічны на таго ж Акуджаву. Мне падалося, што й спадарожнікі таксама адчулі нешта падобнае. Яшчэ й падумаў: якім, напэўна, трэба быць шчасьлівым чалавекам, калі адна твая прысутнасьць робіць з астатнімі такія цуды. Але на наступнай станцыі зайшлі іншыя пасажыры, так бы мовіць, не кранутыя прысутнасьцю арбацкага генія, і цягнік пакаціўся па "накатанай каляіне"...

Гэтая сумная вестка з Парыжу засьпела нас зьнянацку. Нас — гэта ўсіх, каму былі дарагія ягоныя песьні, кніжкі, хто жыў зь яго мэлёдыямі. А такіх нас было й застаецца вельмі шмат. Людзей розных пакаленьняў, розных жыцьцёвых досьведаў ды неаднолькавых прыбыткаў. Зьвязаных сёньня адным болем — сьмерцю Вялікага Барда. Які, быццам бы, не валодаў нейкім незвычайным голасам, ня граў віртуозна на гітары, але кожнаю сваёй песьняю рабіў нас крыху больш шляхетнымі. Паводле стаўленьня да ягонай творчасьці можна было беспамылкова вызначыць, так бы мовіць, культурны ўзровень таго ці іншага чалавека. Застаецца толькі шкадаваць пра той апошні візыт Акуджавы ў Беларусь. Ды памятаць тую гістэрыку, усчыненую ўбогімі нашымі фашыстамі, і як крушыў акуджаваўскія кружэлкі расейскі артыст Гасьцюхін, і "ніякія" паводзіны роднай міліцыі. Болей Акуджава не прыедзе...

Раней, гадоў дзесяць таму, мяне ўвесь час цягнула ў Маскву. Я ехаў туды і знаходзіў тое, чаго вельмі хацелася. Ці то "Таганкі", ці то Валхонкі. Сёньня мне нават цяжка выдумаць тое, "чаго я там забыў". Як сьпяваў мой любімы бард: "Кругом чужие лица, враждебные места. Хоть сауна напротив, да фауна не та..."

**Зьміцер Бартосік**

МАСТАЦТВА

# Трэцяе зьяўленьне Шагала ў Беларусі

Гадоў дзесяць-пятнаццаць назад пра выставу твораў Марка Шагала ў Беларускім Нацыянальным музэі нельга было і марыць, імя мастака раздражняла слых чыноўнікаў і ў часы "перабудовы". Пры жыцьці мастака гарадзкія ўлады запярэчылі яго прыезду ў Віцебск і адмовіліся прыняць у дар ягоныя творы. У канцы васьмідзясятых з "Энцыкляпэдыі літаратуры і мастацтва Беларусі" быў прыбраны артыкул пра Шагала. Беларускае тэлебачаньне здымала з эфіру праграмы пра Шагала, віцебскае начальства спрабавала забараніць здымкі дакумэнтальнага фільма пра вялікага мастака, а стагодзьдзе з дня нараджэньня майстра, якога лічаць сваім культурным здабыткам Францыя, Расея, Ізраіль і ўвесь сьвет, у Беларусі зусім не адзначалася...

Толькі ў 88-м годзе ў Віцебску зьявілася галерэя імя Шагала, а празь некалькі гадоў, дзякуючы намаганьням яе супрацоўнікаў, у Віцебску адкрылася першая выстава мастака. Для вяртаньня майстра на радзіму тады хапіла падтрымкі некалькіх чалавек: жывапісныя працы, уключаныя ва ўсе шагалаўскія каталёгі, далі вядомыя расейскія калекцыянэры, а выстава ўвайшла ў гісторыі выяўленчага мастацтва ня толькі як першая пасьля ад'езду мастака з роднага дому, але, на дадзены момант, і адзіная, дзякуючы якой віцьбічы змаглі пазнаёміцца з жывапіснымі працамі мастака, які праславіў іх горад на ўвесь сьвет. У галерэі выстаўляліся "Зялёныя каханкі", "Аятэка ў Віцебску", "Аголеная на пеўні", тады ж гораду была падараваная апошняя графічная праца майстра "Да іншага сьвету".

На выставе. якая цяпер адчынілася ў Нацыянальным музэі ў Менску і прысьвечаная сто дзясятай гадавіне з дня нараджэньня мастака, паказаныя графічныя працы "міжземнаморскага пэрыяду" 1949-1985-х г. Гэта дванаццаць акварэляў і працаў, выкананых гуашам, а таксама некалькі дзясяткаў аўталіграфіяў з Нацыянальнага музэю Марка Шагала ў Ніцы і прыватных калекцыяў ягоных нашчадкаў. Ёсьць на выставе і працы з калекцыі ўнучкі Шагала Мэрэт Мэер-Грабэр. Яна прыляцела ў Менск напярэдадні адкрыцьця выставы. Дарэчы, летась графіка гэтага пэрыяду выстаўлялася ў Вэнэцыі, дзе наведнікі маглі набыць працы Шагала за высокі, але даступны кошт. Жывапісных палотнаў, якія прынесьлі сусьветную славу мастаку і яго роднаму гораду ў экспазыцыі гэтай выставы няма. Падобна, што іх зьяўленьню ў Беларусі не дапамог нават саюз з Расеяй — пра магчымасьць убачыць жывапісныя працы з прыватных калекцыяў далёкага замежжа нельга і марыць у гэты вар'яцкі час, калі, вярніся сёньня мастак на радзіму, нагадаў бы яму пра краіну, якую ён пакінуў.

Празь месяц у Віцебску на вуліцы Пакроўскай (да нядаўняга часу — Дзяржынскага) у доме, дзе Шагал правёў амаль трацін свайго жыцьця, нарэшце адчыняецца музэй. Кажуць, яшчэ нядаўна адзін ізраільскі галерыст гатовы быў перавесьці рэшткі дому на гістарычную радзіму мастака. Не пасьпеў. Магчыма, дзяржаве спатрэбіцца менш часу для таго, каб ажыцьцявіць чарговы праект, зьвязаны з імем знакамітага мастака — узнавіць гістрычную інфраструктуру Задзьвіньня — пабудаваць аптэку, краму...

**Алена Лукашэвіч**

PROMENADE

# Пад белым парасонам

— Трпр фтхцшпмнкл сткдлнчрснн прдркнмцшптхпчцджбфшд нпрцх...

Лаоская дзятва бяжыць сьледам за белым чалавекам і пішчыць штосьці знаёмае з "великого и могучего". Для іх белы — значыць савецкі, савецкі — значыць расейскі. Я пазайздросьціў гэтым малым: калі нашыя гарэзы будуць лётаць за маскоўскімі гасьцямі і незласьліва крыўляць іхную незнаёмую гаворку?



Я белы! Белы кожны мой целачлен, белыя порткі, ціжмы-макасіны, кашуля, белая панама, пашытая ўчора на замову ўсьмешлівым кітайцам. Ачмурэлы ад самалёта, у якім па няроўнай дыяганалі пераадолеў добры кавалак Эўразіі, сяджу ў чысьценькім рэстаранчыку на вуліцы Луанг Пхабанг. Не распытваю, з чаго стравы, якія падносіць маладзіца ў ружовай блюзцы і чорнай спадніцы. Вырашыў не пытацца, а правесьці, як у кнізе "Гераічная навука", экспэрымэнт над сабой — да канца. Можа так і трэба, але корак адной з соўсных пляшак кажа без акцэнту "пум!" і, выскачыўшы сам сабою, падае на падлогу. Маю спробу нахіліцца іншы эўрапеец спыняе рэзка: "Цыц, тут не прынята, каб белы падымаў што-небудзь з падлогі..." У гатэлі гляджуся яшчэ раз у люстра: "М-да, не расіст, вядома, але ж..."

Гатэль "Санціпхан" будавалі амэрыканцы. Цяпер вядома, хто дамінуе ў чужародным элемэнце Віенц'яна. Хоць, вунь швэды дабудоўваюць фабрыку на ўскраіне, можна сустрэць і спатнелага немца. Але ўвечары ў кожным шынку крута замешваецца знаёмы мат, падкрэсьлена ва ўсё горла, да хрыпаты. А ў джунглях навокал іхныя танкі, на рынку іхныя жонкі з пустымі тварамі.

Не, з такой белай расай не хачу бавіць час. Перакладчык Хансай запрашае наведаць лаоскую сьвятыню, храм Тхат Луанг, які стаў сымбалем краіны. Зь ім лёгка, ён вучыўся ў Маскве, у мастацкім інстытуце, добра дапамог наладзіць выставу беларускага народнага мастацтва, якую мы разгарнулі ў флігелі былой францускай адміністрацыі. Сьвятыня — гэта пагада, цэльны, гарманічны ансамбаль XVI ст. Пад яе падмуркам захоўваецца волас Буды. "Пагада" — партугальскае слова. А вось ужо ўвесь астатні лемантар будыйскага дойлідзтва і плястыкі — экзатычна тутэйшы: Маўнг Нонгкхэ, Ват Шумкхонг, Ват Пра Кеа, Сіенгтхонг... "А гэта цырыманіяльны х..." — тлумачыць Хансай. Пачуўшы знаёмы акупанцкі архітэктурны тэрмін, навакольныя лаосцы рагочуць разам са мной, як малпачкі з мульціка "Маўглі". "Трэба казаць — цырыманіяльны фалус," — скрозь сьлёзы карэктую я. Але позна, настрой канчаткова палепшаны.

Эстэтычныя прыярытэты і мэнталітэт гэтага народа зразумець цяжка. Мясцовыя камунары так і не завалілі помнік апошняму каралю (створаны, дарэчы, грузінам Амашукелі!). Пад трыюмфальнай выгбай Анусавары памяці палеглых герояў актыўна дзейнічае кавярня. Толькі вярнуўшыся дадому, я прачытаў, што Лаос уваходзіць у дзясятку найбяднейшых краінаў сьвету. А ўсё ня мог зразумець: ніводнай узорна-паказальнай фальклёрнай групы, ніводнага тэатру. Культура трымаецца не на міністэрстве, а на незацікаўленай любові простых людзей. Два вечары я праседзеў у аўтарамонтнай майстэрні. Рабацягі ў робах, ледзь памыўшы рукі, зьбіраюць суседзкіх дзяцей і наладжваюць рэпэтыцыі-канцэрты. Дзеткі з захапленьнем танцуюць мудрагелістыя, рытмічныя фігуры, дудзяць і бумкаюць у абдымках зь дзівоснымі духавымі, клявішнымі і струннымі. У пякучым паветры матэрыялізуецца тысячагадовая, вечная традыцыя, казка не памірае.

Суладзьдзе з грукатам рассыпаецца штовечар а сёмай. Па рэпрадуктарах на слупах з чырвонага дрэва іграюць "Інтэрнацыянал". На тых жа інструмэнтах мэлёдыка, груваста ўзбагачаная прыдумкай марксідавых шансаньє, нагадвае фрагмэнт з "Майстра і Маргарыты" ў перакладзе Алеся Жука: "У радок сядзелі арангутангі, дзьмулі ў бліскучыя трубы. На плячах у іх разьмясьціліся шымпанзэ з гармонікамі. Два гамадрылы з ільвінымі грывамі ігралі на раялях, і гэтыя раялі не было чуваць сярод шуму, піску і бубуханьня саксафонаў, скрыпак і барабанаў у лапах у гібонаў, мандрылаў і мартышак".

Нас запрасілі на вясельле. Глынуўшы са срэбнага кілішка, мне ў каторы раз закарцела жаніцца. Каля маладых ляжалі жменькі рысу, кавалкі срэбра, манэткі-аты. Усе паненкі салодка ўсьміхаліся мне... Да машыны мы вярталіся шумнай грамадой паўз рысавыя чэкі. Тут я сустрэў свайго татэма. Набуйваліўшы рагастую галаву, ён пёр перад плугам, як сымбаль урадлівасьці. Рашуча пераступіўшы сваю артадаксальную гетэрасэксуальную арыентацыю, я нязграбна пацалаваў яго ў мокрую пысу. Лаосцы аслупянелі, а калі Хансай патлумачыў, заціўкалі: "Мынг... Буйвал? Мынг!" Нат стомлены аратай задаволена ківаў у знак трапічнага адабрамс. Гэта быў бэнэфіс! Нас тут шануюць. Хлопцы засьпявалі старую партызанскую песьню пра чырвонага буйвала з рэфрэнам, накшталт: "Ой, кактусы ды пальмы, мае родныя сёстры.."

Марка Полё прывез у Эўропу першыя зьвесткі пра багатае каралеўства Тысячы Белых Сланоў і Белага Парасона. Суседні Сыям ня йшоў нават у параўнаньне з бліскучай сярэднявечнай дзяржавай Лао. Палітычная катастрофа зьнявечыла Лаос амаль ва ўнісон з нашай краінай. У 1778 г. сыямскае войска сплюндравала і спаліла ўсё, што магло. Вярнуўшыся ў 1827 г., нішчыла яшчэ больш грунтоўна. З тае пары Лаос ніяк ня выпрастаецца ад паралюшу. Толькі кхмэрская трагедыя пераўзышла маштабы ягонай бяды. А за шакалядным Мэконгам, зусім побач — Тайлянд, дзе, праўда, не засталося ніводнага сыямскага ката, затое набірае сілу імпэтны індустрыйны тыгар.

Я разьвітваўся з Лаосам, каб ніколі не забыцца аб ім. Адмовіўшыся ад "сацлягернай, міжнацыянальнай" мовы, мы нетаропка гутарылі пра тоесёе па-француску зь юнакамі, так падобнымі на нашых талакоўцаў. Сёрбалі сайгонскае піва (выдатны бровар!), прысмоктваючы падсоленых малюскаў Acmaea cassis. Заўсёдныя мацюгальнікі за суседнім сталом служылі набрыдным аддаленым фонам. Як і экспартаванае імі "весь мир насилья мы разрушим..." у мясцовай аранжыроўцы, што раптам зараўло на двары: "цяў-цяў, мяў-мяў, дзінь-дзінь..."

**Валеры Буйвал**



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



НОВЫ ПРАЕКТ!

## АЛЯКСАНДАР ЛУКАШУК

# ФІЛІСТОВІЧ. ВЯРТАНЬНЕ НАЦЫЯНАЛІСТА



9 верасьня 1951 году пад Маладэчнам прызямліўся парашутыст... Яго адзінай любоўю была Беларусь. Яго адзінай стыхіяй было змаганьне за яе волю і незалежнасьць. Сябры параўноўвалі Янку Філістовіча з Кастусём Каліноўскім, суайчыньнікі ніколі ня чулі ягонага імя... Цэлы год, хаваючыся ад органаў МГБ па вёсках і лясах, Філістовіч наладжваў беларускае нацыянальнае падпольле, стварыў сваю вайсковую групу, выдаваў у лесе газэту "Жыве Беларусь".

Новую кнігу, якая рыхтуецца ў рамках нашаніўскага Архіву Найноўшай Гісторыі, складаюць дакумэнтальныя сьведчаньні. Словы Янкі Філістовіча ўзятыя зь лістоў, яго ўласных публікацыяў, успамінаў сяброў, а таксама пратаколаў допыту. Кніга пабудаваная ў форме п'есы — закрытага суда над патрыётам, але ўсе словы гэтае п'есы ўзятыя з рэальнасьці.

5 верасьня 1952 году органы МГБ правялі апэрацыю супраць групы Філістовіча. Два ўдзельнікі групы былі забітыя. Сам Філістовіч уцёк і быў арыштаваны толькі праз пяць дзён недалёка ад Горадні. Разам зь ім былі арыштаваныя 15 яго саўдзельнікаў. Вайсковы трыбунал прысудзіў Філістовіча да сьмяротнага пакараньня.

Аўтар кнігі журналіст Аляксандар Лукашук — адзін з заснавальнікаў "Мартыралёгу Беларусі", член Камісіі пры Вярхоўным Савеце Беларусі па правах ахвяраў палітычных рэпрэсіяў; цяпер супрацоўнік Радыё Свабода.

Рэдакцыя мяркуе выдаць новую кнігу не пазьней, чым праз месяц. Нагадваем нашым чытачам, што яны могуць спрычыніцца да гэтае справы і атрымаць кнігу значна таньней за тых, хто набудзе яе пасьля выданьня. Сёньня новая кніга разам зь перасылкай абыдзецца ахвотным у 26 тыс. рублёў.

Каб замовіць кнігу, трэба названую суму пералічыць на наступны рахунак:

*БГФ "Наша Ніва" р/р 3015201930039 "Гарант", філія АКБ "Поіск", г. Менск, код 987.*

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары "Для пісьмовага паведамленьня" пазначыць: "Філістовіч" і Ваш дакладны паштовы адрас.

# Сьціплая кніга для чытаньня



***Аляксееў Л. Гродна і помнікі Панямоньня. — Менск: Беларуская навука, 1996.***

Паспрабуй, чытач, знайсьці сёньня аўтара, які так сьціпла напіша пра свой твор. Здаецца, усе імкнуцца пісаць бесьсмяротныя шэдэўры. Але калі табе сапраўды патрэбны маленькі шэдэўр — вазьмі гэтую кнігу. Прачытаеш яе мо за дзьве гадзіны, але западзе яна ў памяць надоўга.

У свой час выйшла яшчэ адна падобная кніга Леаніда Аляксеева "Па Заходняй Дзьвіне і Дняпру ў Беларусі". Была ў маскоўскага выдавецтва "Искусство" ў 1970-х гадах такая задума: выдаць як мага болей невялікіх кніжак для аматараў падарожжаў па СССР. Шмат было выдадзена, у тым ліку названая кніга Л. Аляксеева, а таксама нарыс Ю. Лабынцава пра Палесьсе. Мо і гэтая кніга шаноўнага маскоўскага археоляга прызначалася для той сэрыі? Ва ўсялякім разе, яна таго ж жанру — падарожныя нататкі, якія клічуць паўтарыць вандроўкі аўтара. Чаму менавіта Горадня? Бо тут у 1948 годзе Л. Аляксееў пачынаў сваю працу ў Беларусі, археалёгіі і гісторыі, якой прысьвяціў не адзін дзясятак гадоў.

Увогуле пра Горадню і Панямоньне напісана шмат. Гэтая кніга адметная тым, што аповед вядзе расейскі дасьледчык. Сьветаўспрыманьне — адпаведнае. Ужо на першай старонцы адчуваем позірк чалавека з Масквы: пасьляваенныя разьбітыя чыгуначныя станцыі Заходняй Беларусі, "старыя абшарпаныя вагоны на рэйках з гнілымі шпаламі" падаліся маладому дасьледчыку "рэшткамі даваенных задворкаў панскай Польшчы". Натуральнымі для маскоўца гучаць словы захапленьня жыровіцкім Богаяўленскім храмам: "Яго ўзводзілі, як і ўсе папярэднія храмы, уніяты, і нам не даводзіцца зьдзіўляцца заходнеэўрапейскаму выгляду помніка". Беларусы гэтаму ніколі і не зьдзіўляліся.

Як сапраўдны расейскі інтэлігент, зь вялікім болем піша Л. Аляксееў пра жахлівы лёс беларускіх помнікаў, і тут ён суворы да сваіх суайчыньнікаў: "Шмат пацярпела Беларусь пад час войнаў з расейцамі, швэдамі, усе яны праходзілі праз яе зямлю, спусташаючы яе". Як бачым, расейцы пастаўленыя на першае месца. А для аднаго вядомага расейскага дзеяча на нашай зямлі Л. Аляксееў знайшоў толькі адзін эпітэт: "пад час апантанай русіфікацыі краю Мураўёвым-Вешальнікам..." Вось што яшчэ прываблівае ў гэтай кнізе — прысутнасьць у ёй ня толькі навуковага сумленьня, але і проста сумленьня.

Паводле навуковага ўзроўню гэтая папулярная кніга адпавядае высокай кваліфікацыі свайго аўтара. У ёй сабраныя зьвесткі і са старых навуковых выданьняў, і з апошніх археалягічных раскопак. Відаць, зь некаторых даўнейшых выданьняў у яе трапілі і відавочныя памылкі. Сапраўды, якія маглі быць татары пад Навагрaдкам у 1214 годзе?

Кніга вабіць і сваёй інтэлігентнай мовай, па якой пазнаеш усе працы Л. Аляксеева. На дзіва, у кнізе не пазначаны перакладчык з расейскай мовы, але ён добра зрабіў сваю справу. Добра, за выключэньнем пары прыкрых памылак, хутчэй тэрміналягічнага характару. "Дварэц Гнезна" у старабеларускіх крыніцах — гэта тып феадальнага паселішча, уласна кажучы, двор, але зусім не "палац Гнезна". "Піянэрскі батальён" лепш выкарыстоўваць для атрада юных ленінцаў, а для расейскіх піянэраў-салёраў падыйдзе прыметнік "піянэрны". Сын нашага вялікага князя Яна III Сабескага зваўся, вядома, Якубам, а ні Якавам, і г.д. Вельмі пасуюць да стылю кнігі маляўнічыя фотаздымкі, некаторыя зь іх зробленыя самім аўтарам — знаўцам фотасправы.

Добрыя словы знайшоў Л. Аляксееў пра аматараў даўніны, зь якімі ён спатыкаўся па сваім жыцьцёвым шляху. Просты столяр з Гарадзенскага музэю Нестар Улейчык абсталяваў экспазыцыю — ці гэта ня варта ўвекавечыць у кнізе? Л. Аляксееў лічыць, што варта, і зьмясьціў нават партрэт майстра. Зьмясьціў таксама аповед Улейчыка пра пачынальніка археалягічных раскопак у Горадні Юзафа Ядкоўскага. Той вёў іх ня дужа прафэсійна, нават на той час. Л.Аляксееў вуснамі Н.Улейчыка і для Ядкоўскага знайшоў апраўданьне: "Папраў чалавека, калі ён памыляўся. Дык не! Звольнілі, выгналі..." Увогуле, Л. Аляксееў у кнізе аддаў належнае, здаецца, усім людзям, якія хоць нешта зрабілі для вывучэньня і захаваньня спадчыны Панямоньня.

Аўтар тонка адчувае прыгажосьць — помнікаў гісторыі і мастацтва, людзей, што працавалі тут, самой прыроды. Ён мае рэдкі для навукоўца талент знайсьці словы любові для някіднага беларускага краявіду. І ў гэтым — прыгажосьць і самой кнігі.

**Валеры Пазьнякоў**

# СПАДЧЫНА-97

Сёлета да невялікага сьпісу беларускіх незалежных пэрыёдыкаў дадаўся часопіс "Спадчына". Гэта ня значыць, што яго не было раней — "Спадчына" даўно й добра вядомая чытачам. Але летась незалежніцкі часопіс, непатрэбны антыбеларускаму рэжыму, вызначаны быў, як безумоўна шкодны й таму быў канчаткова выкінуты зь дзяржаўнага ўтрыманьня. І мусіў стаць незалежным — адзіным культурніцкім "тоўстым" беларускім часопісам, і, пэўна, ня толькі зь незалежных выданьняў, але сёньня і ўвогуле адзіным. Бо ўсе астатнія, тоўстыя й тонкія, што прэтэндуюць на "культурнасьць" і "беларускасьць", чапляючыся за сухую скарынку з "барскай" рукі, паступова губляюць і сваю культурнасьць і беларускасьць. "Спадчына" вырашыла сваім сумленьнем не гандляваць і выбрала няпросты шлях вольнага выданьня. І, трэба сказаць, выйграла — нягледзячы на суровыя, непрадказальныя ўмовы яе цяперашняга існаваньня.

Часопіс зьмяніўся — сапраўды, і былая "Спадчына" была добрая, але цяпер яна набыла, нарэшце, свой адмысловы стыль. Гэта заўважна і ў графічным афармленьні, і ва ўнутранай структуры. Раней часопіс больш нагадваў альманах, які публікаваў падборку часам мала стасоўных паміж сабою матэрыялаў. Цяпер адчуваецца пэўная ўнутраная драматургія, сцэнар, які стварае больш выразны ўласны дыскурс часопіса.

У першых двух нумарах дамінуюць матэрыялы, зьвязаныя са старэйшымі пакаленьнямі адраджэнцаў. Гэта вершы Ластоўскага, успаміны Аляхновіча, Луцкевіча, артыкулы Янкі Станкевіча, Юркі Віцьбіча.



Надзвычай актуальна ўспрымаецца артыкул Смоліча "Незалежнасьць" (у другім нумары): "Незалежнасьць — гэта найвышэйшая мэта, да якой ідуць народы, той кумір, якому ў ахвяру аддаюць яны лепшых сыноў. Незалежнасьць — гэта рэзультат напружанай працы пакаленьняў. Тыя народы, што былі страцілі яе, а цяпер ізноў здабылі, — яны ведаюць ёй цану. А мы яшчэ ня ведаем" (Гэта напісана 76 гадоў таму!).

У тым жа нумары ня менш сучасны артыкул Аляксандра Цьвікевіча на тэму "беларускай інтэлігенцыі". На цікавыя параўнаньні зь сёньняшнім днём наводзіць публікацыя аб адносінах маскоўскага патрыярха Ціхана да беларусізацыі праваслаўнай царквы і БНР. Працытую ўрыўкі зь ліста Ціхана да старшыні Рады Міністраў БНР: "... пазволіць Прэасьвяшчэнным Беларускіх эпархій, у выпадку паступленьня ад большасьці парахіян просьбаў аб ужываньні беларускай мовы ў так званым дадатковым багаслужэньні, у тых храмах карыстацца беларускай мовай. ... прапанаваць Прэасьвяшчэнным тых-жа эпархій прыступіць, калі акажацца магчымым, да выданьня на беларускай мове пропаведзяў, багагласьнікаў і Новага Запавету. ... Прызываю благаслаўленьне Божае і на Вашу працу і на працу ўсяго Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі". Кананізаваўшы цяпер Ціхана, праваслаўная маскоўская царква далёка не сьпяшаецца рэалізоўваць ягоныя запаветы.

Цікаваю здаецца і публікацыя досьледу вядомага баўгарскага палітыка Жэлю Жэлева аб фашызьме і таталітарызьме, хоць прачытаць яе лепш, вядома, было б гадоў зь дзесяць назад.

Яўная перавага дваццатага стагодзьдзя ў абодвух нумарах робіць іх крыху аднастайнымі, што выклікае жаданьне параіць — "калі ласка, шаноўнае спадарства, болей старасьвецкасьці!"

Можа быць самая істотная заўвага — да артаграфіі. Сумесь тарашкевіцы й наркамаўкі разбурае стыль, стварае адчуваньне пэўнага моўнага эклектызму і ў прынцыпе здаецца мне незразумелаю. Тарашкевіца не перашкодзіць беларускамоўнаму чытачу, ды й навошта ўжо незалежнаму часопісу неяк падстройвацца пад афіцыёзны капыл? Хацелася б спадзявацца, што гэта — не мэтанакіраваная палітыка рэдакцыі, бо замест адбудовы мовы у такім разе працягваецца яе разбурэньне.

Але, усё ж галоўнае — тое, што "Спадчына" выжыла, і што яна, спадзяюся, будзе жыць, даносячы да нас нашу культурную спадчыну. Будзьма разам!

**Вацлаў Арэшка**

# Першы, хоць і малы



***Малы гербоўнік наваградзкай шляхты. — Менск, 1997. Аўтарскі калектыў: А. Гануш, А. Леўчык, С. Рыбчонак, А. Шпунт, Зьм. Яцкевіч.***

Напрыканцы траўня ў Доме літаратара быў прэзэнтаваны зацікаўленай (і даволі шматлікай публіцы) "Малы гербоўнік наваградзкай шляхты". "Беларускі гербоўнік" — зусім нядаўна гэта гучала яшчэ большым нонсэнсам, чым "беларуская шляхта". Перагортваючы яшчэ гадоў пятнаццаць таму зжаўцелыя старонкі "Gniazda Cnoty" ці "Кампэндыюма" Каяловіча, пэўна, ня я адзіны думаў пра тое, як многа нашага тут і калі ж гэтае нашае нашым нарэшце і стане. Але сёньня ўжо рэальнасьць — і Згуртаваньне Беларускай Шляхты, і ўсё большая колькасьць публікацыяў ды асобных выданьняў (пра некаторыя "Наша Ніва" пісала раней), і Беларускае Гензалягічнае Таварыства, якое і падрыхтавала выданьне "Малога гербоўніка". Нягледзячы на сваю "маласьць", гэта ўсё ж першае дастаткова сур'ёзна падрыхтаванае на арыгінальных архіўных матэрыялах і даволі ёмістае беларускае выданьне "кшталту гербоўніка".

Складальнікі яго (гэта пераважна супрацоўнікі Нацыянальнага Гістарычнага Архіву Беларусі) паставілі сабе хоць і абмежаваную, але важную задачу — сабраць і апрацаваць матэрыялы так званых "выводных кніг" канца XVIII — пачатку XIX ст., калі шляхта мусіла даказваць расейскім уладам пэўнасьць свайго шляхецкага паходжаньня. Рэгіён — Наваградчына — абраны, на маю думку, вельмі ўдала, ня толькі праз захаванасьць архіўных зьвестак, але й таму, што гэта — сэрца беларускай дзяржаўнасьці, беларускай шляхецкай гісторыі, што гэта абшары, здаўна густа заселеныя шляхтай, дзе жылі, валодалі землямі, альбо так ці інакш адзначыліся амаль усе вядомыя беларускія роды. У кнізе можна знайсьці зьвесткі і пра Абуховічаў, і пра Храптовічаў, і пра Дамейкаў, але ж ня будзе артыкулаў пра Радзівілаў ды іншыя буйныя магнацкія дамы, якім звычайна не выпадала праходзіць такую ж працэдуру, як драбнейшай шляхце.

Дарэчы ў кніжцы невялікі разьдзел па асновах геральдыкі. А вось уступны артыкул мог бы быць значна большым і грунтоўным. У выданьні, якое мае быць навуковым, тым больш пабудаваным на архіўных матэрыялах, не зашкодзілі б спасылкі на канкрэтныя архіўныя справы, бібліяграфічны аддзел. Побач з імянным паказальнікам не стае геаграфічнага. Шмат заўвагаў выклікае "Слоўнік тэрмінаў". Напрыклад — генэралам у ВКЛ называлі ня ўсіх возных, а толькі такіх, чые паўнамоцтвы дзейнічалі па ўсім ваяводзтве ці правінцыі; даволі сумнеўнай будзе адпаведнасьць паручніка войска ВКЛ "сучаснаму воінскаму званьню старшага лейтэнанта"; яшчэ й Ластоўскі слушна заўважыў, што дакладней будзе ня "чашнік" — ад "чаша", а "чэсьнік" - той, хто частуе, кажа "чэсьць" (у лаціне "чэсьнік" — pincerna — той, хто зьмешвае віно з вадою, але не "падчашы" — pocillator, той, хто падае кубак). Такіх, у прынцыпе дробных, але ўсё ж недакладнасьцяў у слоўніку нямала. Больш увагі трэба было аўтарам зьвярнуць і ўвогуле на мову кнігі — яна часам, нават для наркомаўкі ня лепшая. Ёсьць пытаньні й да напісаньня імёнаў ды гербавых назваў.

Заўвагаў нямала, але праца зробленая — і, дарэчы, ізноў жа непатрэбная сёньняшняй беларускай дзяржаве: кніга выпускалася практычна за кошт складальнікаў. Недахоп сродкаў адбіўся на афармленьні — мастак падрыхтаваў арыгінальныя каляровыя малюнкі гербаў, але на друкаваньне іх проста не было грошай. Усё ж нават і сьціплыя выявы ў тэксьце добра дапамогуць тым, хто зацікаўлены геральдыкай. Увогуле гэтая кніга выклікае больш добрых уражаньняў, і можа, самае галоўнае, надзею, што гэта — пачатак вялікай справы.

"Малы гербоўнік" хочацца займець, гартаць старонкі, шукаць знаёмыя прозьвішчы, углядацца ў загадкавыя выявы гербаў... Прыйдзе час і будуць нашыя кнігі на шыкоўнай паперы, у выдатных пераплётах, з бліскучым колерам ілюстрацыяў... А цяпер — варта набыць гэтую, тым больш, што наклад рарытэтны — усяго толькі трыста асобнікаў.

**Вацлаў Арэшка**

ПАДПІСКА

# ГАРТ. САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПАТРЫЁТАЎ



**Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў** (Глыбокае, Паставы. 1945-1947 г.). — Менск: Наша Ніва, 1997. — 352 с. ISBN 985-6374-01-4

Саюз Беларускіх Патрыётаў — гэта падпольная маладзёжная арганізацыя, якая ўзьнікла ў 1945 годзе сярод студэнтаў пэдагагічных вучэльняў Глыбокага і Паставаў. Спачатку гэта былі суполкі. Яны склаліся стыхійна — як рэакцыя навучэнцаў на пасьляваенную русіфікацыю асьветных установаў Беларусі. 8 лютага 1947 году СБП быў разгромлены бальшавіцкімі карнымі органамі. Большасьць атрымала 10 гадоў пазбаўленьня волі...

Кніга ўспамінаў "Гарт", акрамя мэмуараў, уключае ў сябе прадмову ўкладальніка Германа Кірылава, індэкс асобаў і прадметнагеаграфічны паказальнік, больш за 60 дакумэнтальных фотаздымкаў. Кніга выйшла ў рамках праекту "Нашай Нівы" —Архіву Найноўшай Гісторыі.

Выдавецтва "Наша Ніва" праводзіла папярэднюю падпіску на "Гарт". Тады кошт падпіскі складаў 37 тысячаў рублёў. Тыя, хто падпісаўся загадзя, сваёй ініцыятываю й сваімі грашыма паспрыялі самому выхаду кнігі.

Цяпер падпіска на кнігу праводзіцца ў адпаведнасьці зь яе сабекоштам — 58 тысячаў рублёў плюс 8 тысячаў на паштовыя выдаткі.

Каб замовіць кнігу, трэба агульную суму ў 66 тысячаў рублёў пералічыць на наступны рахунак:

*БГФ "Наша Ніва" р/р 3015201930039 "Гарант", філія АКБ "Поіск", г. Менск, код 987.*

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары "Для пісьмовага паведамленьня" пазначыць: "падпіска — СБП" і Ваш дакладны паштовы адрас.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



З ГІСТОРЫІ "ЗЯЛЁНАГА ДУБА"*

# Атаман Касінскі

Некалі паэт Аляксандар Блок, разважаючы пра крытычную масу незадаволенасьці ў расейскім грамадзтве і прычыны палітычнага тэрарызму, пра сябе дадаў: "Сам я не тэрарыст, ужо праз адно тое, што літаратар". Але ж былі ў Блока сучасьнікі, якія выступалі ў дзьвюх згаданых іпастасях адразу. Яны змагаліся і пісалі пра сваё змаганьне. Другая роля літаратара спатрэбілася ім, каб вытлумачыць свой няпросты, пакутлівы першы выбар.

Яскравы прыклад баевіка-пісьменьніка, ці наадварот пісьменьніка-баевіка — Вячаслаў Адамовіч-малодшы. "Малодшы" таму, што ён сын Вячаслава Адамовіча, вядомага беларускага палітыка, старшыні Беларускага Палітычнага Камітэту, створанага на ўзор Расейскага камітэту Барыса Савінкава, таксама пісьменьніка і тэрарыста. Вячаслаў Адамовіч-старэйшы займаўся арганізацыяй цывільнага ўраду пры штабе генэрала Булак-Балаховіча, якога на польскі ўзор абвясьцілі начальнікам Беларускай дзяржавы. Стварэньне арганізацыі "Зялёны Дуб" таксама праходзіла пад пільнай увагай БПК.

Вячка Адамовіч увесь час сваёй актыўнай атаманскай, пісьменьніцкай і тэатральнай дзейнасьці карыстаўся псэўдонімам Дзяргач — назваю балотнай птушкі. Дзергачом яго назвалі навучэнцы Менскай духоўнай сэмінарыі, сябры гуртка беларусазнаўства, якім ён кіраваў на працягу 1918 году. Гэтую яго мянушку згадвалі ў хоры Ўладзімера Тэраўскага, зь якім ён вандраваў па Беларусі, зьбіраючы народныя паданьні, легенды, песьні. Гэтым псэўдонімам падпісваў свае п'есы, літаратурныя творы і загады штабу "ЗД".

У свой час я доўга вырашала няпростае пытаньне пра год утварэньня "Зялёнага Дубу". Архіўныя крыніцы сьведчылі, што антыбальшавіцкая арганізацыя "Беларуская сялянская партыя Зялёнага Дубу" канчатковае афармленьне набыла ўвосені 1920 году, прыняўшы эстафэту змаганьня ад слуцкіх паўстанцаў і балахоўцаў. Менавіта ў лістападзе-сьнежні 1920 г., пад час інтэрнаваньня ў Польшчы асноўных сілаў генэрала Булак-Балаховіча і 1 Брыгады стальцоў БНР зарганізаваўся Галоўны штаб партызанскіх аддзелаў "ЗД". Аднак, выпадкова натрапіўшы на дзёньнік В.Адамовіча, які быў надрукаваны ў верасьні-кастрычніку 1919 г. у часопісах "Звон" і "Беларусь" (частка нумароў знайшлася ў Беларускім дзяржаўным архіве музыкі, літаратуры і мастацтва, частка — у залі замежнай літаратуры Расейскай дзяржаўнай бібліятэкі), я прыйшла да высновы, што стыхійны зялёнадубскі рух у 1919 годзе ўжо існаваў, што і засьведчыў "дзёньнік".

Тут трэба зазначыць, што традыцыя вызвольнага сялянскага руху ў Беларусі цягнецца з папярэдніх стагодзьдзяў. Беларуская вёска ніколі ня мела недахопу ў вядомых і невядомых героях, якія адважна паўставалі супраць тырана, кім бы ён ня быў: пан ці камісар. Гэтая традыцыя зноў увасобілася ў "Зялёным Дубу".

У першыя два пасьлякастрычніцкія гады па Беларусі пракацілася моцная хваля сялянскіх антыбальшавіцкіх паўстаньняў: Аршанскае, Сеньненскае, Гарадоцкае, Вяліскае, Гомельскае, Дзьвінска-Браслаўскае і г.д. Пасьля жорсткага падаўленьня ўзброеных сялянскіх выступаў супраціў працягваўся ў вельмі тыповай для Беларусі форме — партызанцы. Менавіта са стыхійнага зялёнага (зялёнадубскага) руху вырасла баявая арганізацыя з выразнымі палітычнымі мэтамі, асноўнай зь якіх была адбудова незалежнай дэмакратычнай Беларусі. "Тэрорную працу" (тагачасны выраз) зялёнадубцы лічылі партызанскімі дзеяньнямі, перадумовай дзеяньня рэгулярных сілаў.

З канца 20-га году арганізацыя набыла вядомасьць. Пра зялёнадубцаў, як "невядомых мсьціўцаў", пісалі польскія газэты. "Беларускімі тэрарыстамі" называла іх расейская замежная прэса, "бандытамі" — савецкая. Але спачатку пра сябе сказалі самі зялёнадубцы вуснамі атамана.

Форма партызанскага летапісу, атаманскага дзёньніка, як мага лепш адпавядала часу. Умовы жорсткага супраціву і адкрытай барацьбы зь непрыймальнай ідэалёгіяй, незразумелым сьветапоглядам, што прыкрывалі зьнішчэньне традыцыйнага ладу жыцьця і рабаўніцтва сялянскай гаспадаркі, зрабілі пісьменьніка Дзергача жорсткім рэалістам і адначасова рамантыкам зялёнага руху.

Дзяргач жывапісаў вельмі тыповую сытуацыю. Паводле загаду чырвонага камандаваньня зялёны партызан — гэта дэзэртыр і бандыт. Сям'я яго падпадае пад розныя формы рэпрэсіяў. А калі ў мясцовасьці дысьлякуецца партызанскі аддзел, то барацьба з "бандытамі" вядзецца "мэтадамі акупацыі", а начальнік акупацыйнага гарнізону ўвасабляе сабою ўсю заканадаўчую і выканаўчую ўладу. У адносінах да сем'яў, члены якіх удзельнічалі ў зялёнай партызанцы, а па сутнасьці такія былі ў кожнай хаце, рэўваенсавет Заходняга фронту выдаў загад: апісаць і канфіскаваць усю маёмасьць, перадаць канфіскаванае "сем'ям чэсных чырвонаармейцаў". Падпісалі загад камандарм Заходняга фронту Тухачэўскі і член РВС фронту Смілга.

Рэпрэсіі супраць зялёнай партызанкі, якія шырока практыкавала новая ўлада, пералічаныя ў загадах т.зв. надзвычайных троек па барацьбе з дэзэртырствам і бандытызмам. Як прыклад, загад №3 ад 22 лістапада 1919 г.: "У выпадку ўпартага супраціву і ўкрывальніцтва дэзэртыраў і бандытаў павятовым рэўкамам даецца права накладаньня кантрыбуцыі, канфіскацыі маёмасьці, выкарыстаньня насельніцтва на прымусовых работах, узяцьце закладнікаў".

Тут трэба ўдакладніць, што вышэйназваныя пакараньні вельмі характэрныя для 1919 г. — часу складаньня дзёньніка "ЗД". Зялёны рух набірае моц, удасканальваецца і рэпрэсіўная машына. Карныя меры: канфіскацыі, кантрыбуцыі, прымусовая праца — усё больш нагадваюць вайну з іншаземным праціўнікам. Па сутнасьці, камандарм Тухачэўскі не рабіў вялікай розьніцы паміж вонкавым і ўнутраным франтамі. Міжволі паўстае пытаньне: "Ці была тады ў Беларусі грамадзянская вайна? Якая гэта была вайна? Каго з кім?"

Гэты ж 1919 год прынес ці вярнуў у Беларусь інстытут закладнікаў. Такая форма рэпрэсіяў удала і пасьпяхова была выкарыстаная М.Тухачэўскім у 1921 годзе пры падаўленьні Тамбоўскага паўстаньня, т.зв. антонаўшчыны. Але ж вядома, які багаты карны досьвед набыў славуты камандарм значна раней. Матэрыялы Віцебскага абласнога архіву сьведчаць, што гэтая форма запалохваньня і расправы была выдатна апрабаваная яшчэ ў Беларусі. Праўда, знойдзеныя толькі мясцовыя пастановы аб утрыманьні закладнікаў, але яны прынятыя згодна з інструкцыямі РВС і штабу Заходняга фронту:

"Для барацьбы з бандытамі, якія апэруюць у павеце, узяць у воласьці па 30-40 чалавек закладнікаў і ў выпадку спробы забойства хаця б аднаго савецкага работніка тэрмінова расстраляць усіх і ўзяць новых".

Такім чынам, рэчаіснасьць ваеннага 1919 году яшчэ больш сумная і трагічная, чым яна выглядае са старонак партызанскай прозы атамана Дзергача. Ён яшчэ толькі ўступаў на шлях вайны. Ягоная барацьба яшчэ ўся наперадзе. І ў творчасьці зьяўляцца новыя матывы. На жаль, пакуль ня знойдзеныя тэксты яго драматычных твораў. Але назвы сьведчаць, што партызанская, лясная тэматыка, патрыятычны пафас па-ранейшаму ў цэнтры ўвагі пісьменьніка.

У 1924 г. у Вільні выйшаў зборнік Дзергача пад агульнай назвай "Тыпы Палесься. Абразкі і легенды". Пад адной вокладкай аўтар сабраў творы, якія зьявіліся раней на старонках беларускіх газэт і часопісаў. Напрыклад, часопіс "Рунь", што выдавалі Вацлаў Іваноўскі і Янка Луцэвіч (Купала), на працягу траўня-ліпеня 1920 г. друкаваў яго "лясныя" нарысы. Нямала месца адводзіла ім у 1922-23 г. і віленская газэта "Грамадзкі голас". Сярод палескіх замалёвак у згаданым зборніку зьмешчаныя таксама легенды пра Юрку Косага і возера Князь, вакол якога разгортваецца дзейства. Прыязнасьць і пяшчотныя адносіны атамана да гэтых мясьцінаў зразумелыя. Дастаткова зазірнуць у зводкі разьведупраўы Заходняга фронту ад 30-31 лістапада 1921 г.: "Дзяргач, як і раней, займае лінію за возерам Князь (Жыд) да Старобіна, ніжэй яго — атаман Грозны, побач — Багалевіч і Міpановіч". (Апошняе прозьвішча знаёмае: гэта ротмістар Міpановіч — начальнік контр-выведу 1 Слуцкай брыгады БНР. Дарэчы, многія былыя слуцкія паўстанцы ўзначалілі зялёнадубскія аддзелы).

А першае знаёмства атамана з возерам адбылося ў той час, калі Дзяргач зьбіраў сілы і вызначаў першыя маршруты дывэрсійных рэйдаў у тым самым 1919-м.

"Ды вось яно, возера Князь, пра якое я чуў шмат легендаў. Вось яно! Ува ўсім харастве перада мной!.. Бачу я, як паўстаюць са дна возера сівыя дзяды. Зьзяе штандар над імі, і голас іх я чую... "Сябры! Пэўна трэба зноў самім брацца за справу, ня хочуць нашы праўнукі бараніць сваю волю, сваю старонку, пэўна трэба нам зноў сваёй рукою падняць меч за волю... Трэба нам пайсьці па вёсках і разбудзіць праўнукаў сваіх! Дакуль яны будуць жыць пад зьдзекам маскоўскім і пад чужацкай навалай!"

І хадзіў Дзяргач да людзей, заклікаў іх пад свой штандар, ствараў баявыя аддзелы, "каб ніколі не забыўся брат мой бедны, што на гэтых берагах жыў, жыве і будзе жыць беларус..."

Юрка Косы, пэрсанаж драмы і аднайменнага нарыса Дзергача, нарадзіўся і жыў каля возера. Княжы сын, але нелюбімы і непрызнаны бацькам. Юрка згадзіўся добраахвотна прыняць сьмерць ад бацькі, бо забойства сына вызваліла чорную княжеву душу ад зла.

"З таго часу зьмяніўся князь. Раздаў усю зямлю сялянам, адбудаваў спаленыя вёскі, сабраў усіх хворых і бедакоў і быў бацькам для ўсіх".

У гэтай легендзе атамана прываблівала самаахвярнасьць героя. На думку аўтара, можна і трэба аддаваць жыцьцё ў заклад, калі гэтую ахвяру зразумеюць людзі і павернуцца да дабра. Такім чынам Дзяргач тлумачыў выбар свайго шляху, шляху барацьбы і расчараваньня.

У сваёй творчасьці Дзяргач вельмі часта зьвяртаецца да тых, чый жыцьцёвы шлях ужо скончыўся і, як быццам, дае зарок не спыняць справы змагароў "за лепшую долю Бацькаўшчыны мілай!" У адным з нарысаў — "Атаман Касінскі" — на магілу старога ваяра Дзяргач прыводзіць на прысягу партызанаў. Пад прозьвішчам Касінскі аўтар намаляваў агульны, сымбалічны партрэт слуцкага паўстанца, героя.

Прозьвішча атамана Касінскага было вельмі папулярнае сярод зялёнадубцаў. Яго часьцяком выкарыстоўвалі як партыйны псэўдонім кіраўнікі "ЗД". Нейкі час сам Дзяргач карыстаўся імем Вячаслаў Касінскі. Начальнік штабу "ЗД" Уладзімер Ксяневіч-Грач стаў Уладзімерам Касінскім. Начальнік контр-выведу "ЗД" Анатоль Пашкевіч увесь час дзейнічаў як Антон Касінскі. Колькасьць атаманаў Касінскіх усё павялічвалася. Літаратурны герой Дзергача паўстаў з магілы, набыў кроў, плоць і новую славу.

У нарысах аўтар дасягае філязофскіх абагульненьняў. Шмат што прадчувае з жалем і без аптымізму глядзіць у будучыню. Вострыя пытаньні задае сабе і людзям. "Хто ты?" — пытаецца ён у жыхара гэтай зямлі. "Ды я той! Той, што ня мае прытулку на роднай сваёй зямельцы, у роднай хаце сваёй не гаспадар! Я той, з каго ўсе сьмяюцца і пры жыцьці і па сьмерці, над мовай маёй, над звычаем, над усім сьмяюцца!.. Чуеце: я — Беларус!"

Вярэдзіць сэрцы атаман, кранае за жывое сваімі пытаньнямі: "Калі мы адпачнем? Калі над нашай зямлёй будзе сьцяг толькі наш зьзяць?

Калі сьмела скажам усім, што хочам жыць сваім жыцьцём, сваёй уласнасьцю, гаспадаркаю!

Мусіць ніколі?..

Сумна мне!..

Нясуцца над хатай крумкачы. Чую я сэрцам бяду...

Той, хто абяцаў дапамогу — здрадзіў і ў крыўду на вечныя мукі нас аддаў, пакінуў лёс наш у кайданах назаўсёды!.."

Ня вельмі моцную надзею атаман усё ж выказаў, разважаючы пра далейшы шлях свайго народа. "Мо на касьцёх нашых калісь паўстане край наш родны, прачнецца брат мой цёмны і збудуе хату, у якой сам запануе..." На жаль, невядома, дзе і калі скончыўся жыцьцёвы шлях баявога атамана і пранікнёнага лірыка Дзергача.

**Ніна Стужынская**

*Першы артыкул пад гэтай рубрыкай друкаваўся ў "НН" летась (№27).

# Адзін

## *Варта*

Ціха, ціха кругом, толькі дзе-нідзе зашуміць вецер паміж галін дрэваў ды зноў ціха, як у магіле.

Уецца грэбля скрозь гушчарню Палесься, паўзе, як гадзюка, і гіне дзесь сярод частага грабняку. Здаецца, што гэтая дарога зробленая не для жывых людзей, бо нікога на ёй не відаць.

А ці ж гэта так? Не, вось у цяні галін едлы стаіць чалавек зь вінтоўкаю за плячыма і пільна глядзіць у канец грэблі, дзе тая гіне з вачэй у гушчарні лесу.

Хто гэты чалавек? Хто яго тутака паставіў, каго ён пільнуе? Ці можа гэта разбойнік выйшаў на дарогу, каб забіць каго? Ці можа паляўнічы жджэ дзіка, каб меткай куляй зваліць яго? Не, усё гэта ня так. Паставіла гэтага чалавека тут, сярод грэблі, нядоля, уклад усяго нашага цяперашняга жыцьця.

Прыгледзьцеся добра ў яго малады твар! Ці не пазнаеце ў ім таго, каго гоніць жыцьцё ў лес ад людзкой няпраўды? Ён моцна сьціснуў вінтоўку рукамі і плача душой ад горкай крыўды. Моцна б'ецца сэрца у грудзях... Ня ведама толькі, ці доўга? Няхай хоць гадзінку, абы яно білася за праўду, за родны край!

А вецер ціха калыша галіны едлы, а тыя, як шырокія лапы сьмерці, прыгарнулі да сябе гэтага маладога байца за сваю Бацькаўшчыну. Вось дзесь далёка загрукаў нечы конь на бярвеньнях грэблі, і грук яго капытаў пайшоў па лесе. Вось усё бліжай і бліжай, вось і вырас усаднік на белым каню. Упіўся ў яго вачыма чалавек зь вінтоўкай пад елкай, і ціхая радасьць засьвяцілася ў яго вачох. Свой! Вось ужо добра відаць малады твар і шапку, а на ёй тры дубовых лісткі, а за поясам заткнуты "маўзэр". Вось ён стрымаў каня, і моцны гвізд завыў па лесе.

Гві, гві, гві! — адазваўся маладою вуткай чалавек з-пад елкі, і ўсаднік пагнаў каня, і яшчэ хвіля — і ён пад'ехаў да елкі.

— Ну, Семка, здароў! — сказаў ён, злазячы з каня.

— Нічога, добра. Звадзі барджэй каня з грэблі.

Усаднік зьвёў каня з грэблі, прывязаў да маладой асінкі і падыйшоў да вартаўніка.

— Ну, здароў яшчэ раз, Семка! — І два чалавекі абняліся, як браты, і моцна пацалаваліся.

— Ну, вось я і дома! А дзе стан? — спытаў усаднік. — Трэба хутчэй бегчы ды сказаць, што "бальшакі" хочуць іці на нас аблавай.

— Ці ж?

— Але, браток, — можа нават заўтра.

— Вось як! — сказаў Семка.

Усаднік адвязаў каня і чуць прыкметнай сьцежкай пашыўся ў гушчарню лесу. А Семка астаўся ізноў на сваім месцы пад ценем ялінкі. Ізноў глядзіць у канец грэблі і чакае...

## *У стане*

Прайшоўшы шагоў трыста, усаднік пачуў галасы гамонячых людзей і хутка выйшаў на паляну. На ёй, па розных кутках, сядзела і стаяла чалавек каля дзесяці аружных людзей. Пасярэдзіне на трох калох, на тоўстым дроце вісеў вялікі чыгун, а ў ім булькаўся крупень. Тутака-ж адзін малады хлапец сек сякерай шакалі, другі падкідаў іх у вагонь, трэці рэзаў сала, смачна аблізваючыся. Усаднік аглядзеў усю палянку быстрым вокам, зьняў з каня сядло, павесіў яго на сук і, зьняўшы вобруць, пусьціў каня на траву, а сам накіраваўся да найбольшай груды людзей, адкуль ішоў найбольшы гоман.

— Ці здаровы, сябры, як маецеся? — зычным голасам гукнуў ён да іх. Колькі галоў азірнулася, хутка падняўся цэлы гвалт галасоў.

— А, Дзяргач, здароў! Як, што чуваць? Дзе бальшавікі?

І людзі абступілі прыбыўшага чалавека.

— Ціха, ціха! — замахаў ён на іх рукамі. — Закаркалі, як крумкачы! Чаго добрага, і Лейбу Троцкага збудзіце ў Маскве гэткім гвалтам... А дзе-ж Піліп? А вось ён! Ну, здароў! Здаровы і вы ўсе, сябры! — сказаў ён, пацалаваўшыся зь Піліпам.

— Ну, ну, добра! Кажы, кажы, што чуў, дзе быў? — загаманілі ізноў наўкол яго.

— Але ж ціха, каб вас цямцюр! — замахаў на іх рукою Дзяргач. — Усё скажу.

Усе сьціхлі.

— Ну, вось, сябры, я прыйшоў да вас сказаць, што бальшавікі ідуць на нас па двух шляхох. Адзін атрад ідзе па Пятракоўскаму шляху, другі па Бабруйскаму. Яны ўжо каля Дзяковіч. Мы ўжо аб гэтым далі знаць і ў галоўны наш штаб "Качай балота". Вось і ўсе навіны! А цяпер, паны старшыны, пойдзем пагамонім дзе ў баку аб усіх справах, як спаткаць нашых ворагаў, — скончыў ён, і людзі расступіліся, даючы дарогу яму і Піліпу.

Падыйшоўшы да сьсечанага дуба, яны селі на яго. Зараз да іх падышлі тры чалавекі. Гэта былі старшыны: капітан Мораў, паручнік Шадраў і Воран. Доўга гаманілі яны між сабою, а пасьля ўзьлез Воран на пень і клікнуў: "Гэй сябры, сюды!" З усіх канцоў зьбегліся людзі і абкружылі звалены дуб і пень і стаяўшага на ім бяз шапкі Ворана.

— Браты мае родныя! Час барацьбы прабіў. Вораг ідзе на нас, каб адабраць у нас волю, каб забіць у нас дух нацыянальнага адраджэньня. Браты, ці сьцерпім мы гэта, ці зможам маўчаць? Не! Кожны з нас ведае, чаму мы тут, сярод лясоў; чаму ў руках моцна трымаем стрэльбы і за якое жыцьцё мы бьем-



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# Дзень у арміі "Зялёнага Дуба"

ся. Так няхай жа наш вораг спаткае з-пад кожнага пня і куста кулю і моцны прадсьмертны клік кожнага паўшага байца: "Хай жыве Вольная Беларусь!"

— Хай жыве! — гукнулі людзі ўсе ў адзін голас, і яліна далёка, далёка панесла гэты клік.

— А цяпер, паны дзясятнікі, хай людзі палуднуюць і адпачываюць. Бог адзін ведае, што заўтра будзе, сказаў Воран і саскочыў з пня.

— Ну, дык бывайце здаровы! — сказаў Дзяргач, устаўшы з дуба. — Трэба ехаць у свой стан.

— Троху стрывай, папалуднуеш з намі, тады і паедзеш, — адказаў Воран. — Вось ужо і нам нясуць крупень.

Малады хлопец паставіў міску з крупеняю на пень і адышоўся.

— Ну, бяры, браце, лыжку і прашу чым Бог паслаў! — сказаў ён, зьнімаючы шапку.

Старшыны абступілі пень зь міскаю і пачалі есьці.

Усюды сьціхла гутарка, толькі і было чуваць бразганьне лыжак аб міскі ды хурканьне коняў. Усе елі, — хто ведае? — можа астатні раз...

— Ну, дзякуй, бывайце здаровы! — сказаў Дзяргач, абняўшыся з старшынямі, і пайшоў да свайго каня. Асядлаўшы, ён азірнуўся і гукнуў да ўсіх:

— Шчасьліва, сябры, біцца! Бывайце здаровы! Барані вас, Божа!

— Дзякуй, бывай здароў! — загулі людзі, махаючы, хто лыжкай, хто кавалкам хлеба, а хто і шаблюгай.

Дзяргач узяў каня за повад і пайшоў вядомай сьцяжынкай на грэблю. За імі ішоў малады зеленадубец зьмяняць Семку з варты. Вось ужо і елка, а пад ёю верны вартаўнік.

— Ну, бывай, Семка, здароў! Хавай цябе Маці Божа! — абняў яго Дзяргач. — Глядзеце ж, не пускайце ворага тутака! Няхай ён згіне і ня ўвойдзе праз гэтую браму да Палесься! — сказаў Дзяргач, вывеўшы каня на грэблю.

— Ну, бывайце здаровы! — крыкнуў ён, сеўшы на каня, і паехаў.

— Шчасьлівы пуць! — сказаў Семка і пайшоў у стан, пакінуўшы на сваім месцы свайго сябра.

## На грэблі

Зноў ціха на грэблі. Сонца ўжо спаўзло ніжай і хутка саўсім схаваецца за дрэвы, а там спусьціцца яшчэ ніжэй і схаваецца за край зямлі. Вось ужо і зоркі выйшлі на неба і мігаюць сваімі разматымі аганькамі і будзяць шмат думак у галаве маладога вартаўніка. А ён стаіць, апершыся аб стрэльбу і — хто ведае, пра што думае? Можа прашчаецца з тымі, хто далёка адсюль...

А ў лесе калі-нікалі закрычыць сава, альбо крыкнець дзяргач у балоце за лесам, ды ізноў ціха, ціха... А хто ведае, можа праз хвілю запукаюць тутака выстралы, застогнуць людзі, загагоча кулямёт... Ды ізноў сьціхне, ізноў узыдзе сонца і асьвеціць трупы людзей, а над імі радасна закаркаюць крумкачы, лятаючы над смачным чалавечым мясам. Але не: ціха ўсё наўкола, сьпяць жыхары леса, сьпіць і лес, шэпчучы цудоўную казку маладому вартаўніку...

Стой жа, браце, на варце, моцна стой! Бо ўжо чуваць тупат ног ідучага ворага. Мацней сьцісьні вінтоўку ў маладых руках і гукні да сяброў: "Хутчэй сюды на бой, хутчэй! Час прабіў!" Няхай вораг знае, што тут стаяць тыя, што ўміраючы кажуць: "Хай жыве вольная Беларусь!"

## Ноч у стане

Вось ночка пакрыла паляну, дзе чуць мігаў астатні шакаль у вогнішчы. Пры дагараючым агні сядзела чалавек зь дзесяць зеленадубцаў і пільна слухалі аднаго сябра, які, важна размахваючы рукамі, аб нечым гаманіў. Здалёку здавалася, што гэты расказчык гаманіў аб чымсьці паважным, але добра прыглядзеўшыся, на тварах слухачоў можна было разабраць, што гутарка ідзе аб вельмі сьмешным выпадку, бо ня ўсьпеў ён добра кончыць сваю гутарку, як падняўся такі рогат, што стары Сымон, каторы спаў недалеч каля агню, падняў галаву, паслухаў і вылаяўся: "А каб вас нячыста сіла падушыла! Спакою няма на вас... Годзі ўжо!" Але гэты нездаволены голас яшчэ болей паддаў жару, і зарагаталі ўжо ня толькі седзячыя каля агню, але пачуўся рогат адкульсь зь цемнаты.

— "Ну, на сягодня годзе, хлопцы!" — сказаў Піліп, падымаючыся зь зямлі. "Гайда спаць, а то бачыце, Сымона пабудзілі, — бурчыць, як мядзьведзь у бярлозе", — сьмяючыся сказаў ён і адыйшоў ад вясёлае кампаніі.

Памаленьку ўсе разышліся. Каля агню засталося чалавек са тры, але і тыя, пакурыўшы, палеглі, палажыўшы пад галовы свае мяшкі з адзежай. Хутка быў чуваць толькі храп адпачываючых людзей... Ня спалі адны вартаўнікі, стоячы ў канцох паляны, пільна прыслухоўваючыся да кожнага шуму ў лесе. А лес спаў. Ціха шамацелі галінкі між сабой, як бы змаўляліся аб таемных справах свайго жыцьця. Сьвяцілі зоркі з высокага неба, глядзелі на адпачываючых людзей і, здаецца, песьцілі іх чуць прыкметнымі праменьнямі. Спалі людзі, але ня доўга...

## Сыгнал

Вось у начной цішы пачуўся плач савы, і вартаўнікі навастрылі вушы, вось яшчэ і яшчэ... Так ёсьць: вораг ідзе! Пабудзіліся людзі, пачалі штурхаць пад бакі тых, каторыя яшчэ не прачнуліся. Хутка ўсе былі гатовы... Страшна было чуць, як сярод ночы лязгацелі вінтоўкі, і цяжка ўздыхалі людзі.

Вось над грамадай людзей высунуўся нейкі чалавек у касматай шапцы. Гэта быў Дзяргач. Ціхім голасам ён пачаў гаварыць:

— Сябры! Час настаў! Вораг ідзе, дык няхай знойдзе сабе тутака, сярод лясоў, магілу! Пастаім за родную справу! Хай кожны добра ведае, што вораг ня будзе мець літасьці, калі звагае нас, — дык бецеся да астатняга ўздоху... Хай Бог нам дапаможа! — скончыў ён. "А цяпер, старшыны, да мяне!" І колькі людзей абступілі Дзергача.

— Ну, вось што, паны старшыны: трэба зрабіць так, каб вораг не пасьпеў апамятавацца, пакуль будзе зьніштожан, альбо разбаронен. А дзеля гэтага трэба вось што: вы, пане Ерш, пойдзеце са сваімі людзьмі і кулямётам і падпалеце кучы шакалю, што ляжаць каля грэблі пры Воўчай Сьцежцы, агонь адкрыеце з другога боку грэблі. Усё гэта зробіце, як пачуеце гвізд.

— Добра, — сказаў Ёрш, — і хутка са сваімі людзьмі згінуў у цемнаце лесу.

— А вы, пане Громаў, са сваімі людзьмі разьбярэце масток на грэблі і першы адкрывайце агонь. А я зь сябрамі нападу на іх з бакоў грэблі. Ну, у добры час, сябры, з Богам!

І старшыня Громаў з малайцамі ўплыў у цемнату.

— А вы, пане Сымон, баранеце стан сваёй камандай! — скончыў Дзяргач.

На паляне засталіся толькі Сымон ды яго людзі.

## Вораг ідзе

Прытаіліся зеленадубцы па бакох грэблі, у кустох за пнямі, за высокімі дубамі і ждуць... Ужо чуваць вялікі шум ад тупату коней і людзей. Скрыпяць калёсы вазоў і чуваць, як людзі часамі гамоняць адзін да аднаго... Усё бліжай і бліжай. Вось ужо да мосту пад'яжджаюць... Яшчэ міг і пачуўся крык. Нехта паляцеў у ваду.

"Стой! Куда прош! Моста нет!" — разносіцца голас ворага, і некалькі чалавек сьпяшаюцца памагчы свайму правадыру. Але ў гэты міг з другога боку канавы загаманіў нехта зычным голасам:

"Здавайцеся, калі жыцьцё міла, а не — згінеце, як дым у паветры!" То крычаў ім Громаў.

— Товарышчы ні с места! К оружію! Сюда пулемёты! — чуваць каманду сярод ворагаў.

У гэты міг загаманіў кулямёт, але ня ўражы. А разам панёсься моцны гвізд, і вялікі пломень запалаў ззаду ворага... Трашчаць стрэльбы, гамоніць кулямёт: "бах, бах, бах".

Пачуліся сьмяртэльныя крыкі і лаянка начальнікаў.

Сунуліся людзі ў гушчарню лесу, але і адтуль загрымелі выстралы, засьвісталі кулі.

— "Здаемся, здаемся!" — загарлалі ашалелыя людзі, абнятыя з усіх бакоў і пачалі кідаць стрэльбы на зямлю.

Вось зноў зычыць гвізд, і сьціхлі выстралы. Запалаў агонь, і Дзяргач зь людзьмі выйшаў з засады. Са ўсіх бакоў беглі зеленадубцы і адбіралі ад ворага яго баявыя прыпасы. Шмат забралі вінтовак, набояў, тры кулямёты і ўсё гэта зьнесьлі з вачэй стаяўшых, як нежывых, ворагаў.

— Ну, а цяпер, — зьвярнуўся да іх Дзяргач: можаце ісьці туды, адкуль прыйшлі, і сказаць сваім, што так пагінуць усе, хто пойдзе сюды, хто падыме руку на свабоду нашай Бацькаўшчыны! Скажэце сваім, што тут спаткалі вы тых, хто ўміраючы крычыць: "Хай жыве Вольная Беларусь"!

— Хай жыве! — гукнулі зеленадубцы ў вадзін голас.

— Ну, ідзеце сабе, — кіўнуў Дзяргач на ворагаў.

Нясьмела рушыліся людзі і пайшлі, апусьцілі задуманныя галовы, ад таго месца, дзе колькі іх сяброў асталося ляжаць на вякі.

## Пасьля бітвы

Дагаралі агні, гасьлі зоркі ў небе адна за другой. Прачнуліся птушкі і засьпявалі насустрэчу раньняй зоркі... А зеленадубцы шпарка капалі яму дзеля забітых ворагаў. Другія рапаравалі мост, трэція зносілі здабычу ў стан. Усё скончана. Схавалі забітых ворагаў... Але ў старонцы пад елкай ляжалі два забітыя сябры, і над імі стаяў бяз шапкі Громаў. Вось сябры злажылі зь вінтовак носкі, налажылі на іх забітых і панесьлі ў стан...

А ў цёмнай яшчэ пушчы галіны хвояў гойдаліся, як бы кланяючыся забітым, і ціха шамацелі, як бы апошняе разьвітаньне пасылалі.

## Хаўтуры сяброў

Не званілі па іх у звоны, не сьпявалі сьвятых песьняў; не ў дамавіну паклалі іх, — паклалі іх у магілу, пакрылі вянкамі з дубовых галін усе бакі гэтай магілы і апусьцілі ў яе двух згінуўшых за родны край байцоў.

— Сьпеце, сябры, дарагія, сьпеце! Мы помніць будзем аб вас!

З гэтымі словамі кінуў Громаў дубовы вянок і тры горсткі зямлі. "Прашчай, брат мой родны, прашчай навекі! Прашчай і ты, сябар яго неадлучны!" — крыкнуў ён і заплакаў, адыйшоўшы ад магілы. Кінулі ўсе старшыны на тры горсткі зямлі. Зрабілі тое і ўсе сябры.

І вось хутка вырас капец, а на ім крэст зь вянком дубовым.

А сонца ўжо ўзышло. Птушкі радасна сьпявалі ў гушчары галін. Здавалося, што не магло быць, каб пакуль сонца прайшло сваю дарогу, тут ужо спалі сном вечнасьці два байцы за родную Бацькаўшчыну.

Хмурыя разыйшліся людзі, і толькі адзін Громаў стаяў, абапершысь аб крэст над магілай.

Гэй, браток, ня плач! Ня рві душы маёй сьлязьмі! Хай лепей мацней рука твая сьцісьне меч... бо барацьба яшчэ ідзе! Хай згінулі яны, але сэрца іх білася за родны край, за Бацькаўшчыну сьвятую!

## Бура і мары

Трашчаць, ломяцца галіны. Бушуе вецер. Стогне лес. Па чорнаму небу бліскае доўгімі гадзюкамі маланка, і рагоча пярун. Кроплі дажджу моцна сякуць малады твар вартаўніка, але не паддаецца непагадзі малады баец. Далёка, далёка яго мары адсюль, ад лесу, ад буры... Вось ён бачыць вёску, а з краю — хацінку. Вось маці дала вячэру. Зыйшлася ўся сям'я. Прыйшоў брат —настаўнік — са школы. Усе сядзяць і смачна ядуць зацірку. Скончылі, і брат пачаў чытаць кніжку. Усе слухаюць, а малы браток Яська аж рот разявіў, глядзіць і дзівуецца, як гэта шпарка і так добра выходзіць чытаньне ў брата, а ў яго вось ідзе ня гладка... Сястра сядзіць і шые камусь з братоў кашулю. А каля яе — Аксана, і на сумным твары відаць глыбокая думка... "Аб чым сумуеш, мая далёкая краска? Аба мне?.. Не сумуй!" Як шчыра прыгарнуў бы ён цяпер яе да сваіх грудзей! Аддаў бы жыцьцё, каб хоць зірнуць на сваю зараньку ясную... Мары плывуць адна за другою, і ня чуе ён, як з грэблі нясецца плач дзіцячы. Маргнула страшэнная маланка: усьлед за ёю грымнуў пярун і вялікая галіна з трэскам паляцела з дрэва, над каторым стаяў задуманы вартаўнік. У той міг пачуўся крык: "Ратуйце, ратуйце!.." "Божа міласэрны, што гэта?!" — прагаманіў да сябе вартаўнік і, зьняўшы шапку, пераказгнаўся. Але крык зноў... Нейкім вострым болем сьціснуло яму сэрца. "Божа, хто гэта крычыць? Якое дзіця прыблудзіла сюды ў такую страшэнную ноч?.." Вось зноў... Ня вытрымаў ён і пабег на крык. Ужо блізка падбягае. Асьвяціла маланка, і ўгледзеў ён...

## Па дапамогу!

— Божа мой! Мілы Ясечка, адкуль ты тут?

— Петрык родненькі! Гэта... гэта я! — закрычаў ён. Але ўжо акруціў вартаўнік сваю дарагую находку шынелем, і моцна цалуе твар дрыжачага дзіцяці, і пытае яго:

— Хто паслаў цябе сюды, мой родны браток, такога малога сярод ночы і буры?

Плача малы Яська і дрыжачым галаском кажа:

— Петрык, родненькі! Сягоньня ўвечар прыехалі "бальшакі", зарыштавалі Лявона, а заўтра чуць сьвет, павязуць яго ў Слуцак і там заб'юць".

Мацней заплакаў хлопчык і прытуліўся да брата.

— Божа, памажы! Хутчэй, хутчэй у стан! — Ня чуе ён ношы, бяжыць знаёмай сьцежкай. Вось хвіля, і ён бачыць агонь пад навесам і чуе гоман сяброў. Падбег да агню, апусьціў на зямлю хлопчыка і ад вялікага жалю заплакаў:

— Сябры, сябры, памажэце!

Заплакаў і малы Яська. Абступілі зеленадубцы двух плачучых і дзівяцца: што за праява? Уцёк з варты і прынес нейкага заплаканага хлопчыка, а сам раве, як карова! Але вось зьявіўся Морын. Расступіліся людзі, даючы дарогу.

— Пётра, што табе? Адкуль гэты хлопчык? — пытае ён яго і ласкава бярэ за плячо. — Заспакойся Пётра!

Ледва-ня-ледва абладаў сабою Пётра і стаў перад начальнікам, як кажа іх вайсковы ўрад.

— У чым справа! Кажы, браток, хутчэй! — ласкава спытаў Марын. Пётра расказаў, што даведаўся ад брата. Узяў Морын на рукі Яську пагладзіў на мокрай галаве і пачаў распытывацца аба ўсім, што рабілі "бальшавікі" ў іх хаце. Нічога не ўтаіў Яська, усё расказаў: як білі бацьку, як цягнулі сястру ў гумно, як прымусілі маці гатаваць ім есьці і як злавілі ў гумне брата Лявона, бо выскачыў ён зь сена, куды захаваўся, каб убараніць ад зьдзекаў сястру. Расказаў, як яго набілі, зьвязалі, і вось ён, малы Яська, пабег па помач да Пётры.

## Слава малому

Моцна пацалаваў галоўку Яські Морын, сьціснуў руку Пётры і зычным голасам зьвярнуўся да сяброў.

— Сябры! Прад вашымі вачыма стаіць малое дзіця. Яно прыбегла да нас сярод буры і непагоды, шукаць ратунку. Нічога яно не баялася, бегла праз балоты і лес, ня чула страху. Любоў, вялікая любоў да сваіх гнала яго ўперад: ня чуў ён страху, бо хацеў выратаваць свайго брата. Дык будзем помніць гэтую хвіліну жыцьця нашага і шанаваць яе, бо яна нас вучыць, як трэба любіць адзін аднаго і не шкадаваць свайго жыцьця для ратунку сваіх братоў. Пойдзем на помач зараз! Хай шчырая любоў малога хлопчыка да брата будзе прымерам для нас. Слава малому! — закончыў ён і падняў Яську на рукі, каб бачылі ўсе.

— Слава! — гукнулі ўсе ў вадзін голас.

— А цяпер дайце яму зьесьці і другую адзежу, а яго уласную трэба высушыць... І хутчэй зьбірацца на помач!

— Вялікі дзякуй вам, пане старшыня! — прагаманіў Пётра, зь любоўю гледзячы на свайго атамана.

Праз хвілю Яська сядзеў у сухой кашулі і смачна еў хлеб з салам, а людзі зьбіраліся ў паход, каб выратаваць ад сьмерці яго брата і ўсю сям'ю.

## Помач ідзе

Гатовыя ўсе зборы, і чалавек шэсьцьдзесят зеленадубцаў, пад камандай Шнуроўскага выйшла на грэблю. Шпарка йшлі яны.

Бура ўціхла. Дождж перастаў. На небе дзе-ні дзе праз хмары былі відны зоркі. А на ўсходзе ўжо сьвятлела, і хутка шэрая імгла стала гінуць дзесь у гушчыне лесу, і яшчэ праз хвілю засьпявалі ў лесе птушкі на розныя лады.

Кончыўся лес, і прад вачыма людзей закалыхалася, як мора, жоўтае жыта. Пасьля пацягнуўся авёс, бульба, грэчка, лён — усё багацьце селяніна.

Ярка блiснула сонца. Сіні туман пабег ад яго і згінуў у гары... Вось зноў лес, а за ім ужо добра відаць невялічкую вёску. Моцна забілася сэрца ў грудзёх Пётры. Сьціснуў ён вінтоўку і глядзіць на вёску. Прывычныя вочы знайшлі знаёмую хату і шэпча ён. "Божа, памажы! Дай, Божа, пасьпець у пару!"

## Вораг пацяшаецца

Сядзіць зьбіты Лявон у каморы, чуе, як плача старая маці, чуе, як стогне бацька, — і рвецца сэрца на кавалкі. Ня чуе ён, што баліць яму моцна зьбітая галава, — аб сястры гаруе. Чорная дума не выходзе ў яго з галавы... А што, як яна не пасьпела ўцячы ў тую хвілю, як кінуўся ён на краснаармейца? Што, калі не пасьпела яна ўцячы, што тады здарылася зь ёю? А вораг баляваў у хаце: самагонка лілася рэчкаю, і дрэнныя песьні насіліся ўсю ноч па вёсцы. Разьбегліся людзі, хто куды, а п'яныя краснаармейцы грабілі хаты, зьдзекваліся зь людзей... Вось заіграла сонца. Выйшаў іх начальнік з "ч.-к." з хаты і гукнуў сваіх апрычнікаў: "Таваришчи, запрагать лошадей!" Жаласна заржалі коні, як ваўкі тузалі іх азьвярэлыя людзі, з чырвонымі гвездамі на шапках.

— Выводи контр-рэволюціонера! — зноў скамандаваў іх старшы з "ч.-к."

Некалькі чалавек увайшлі ў хату са стрэльбамі і праз хвілю вывелі Лявона з закручанымі рукамі назадзе. За ім выбегла матка, плачучы і ломячы рукі, кінулася на калені перад чалавекам, абвешаным з ног да галавы аружжам, і стала маліць, каб адпусьцілі сына на волю. Але ўсьміхнуўся Юда і крыкнуў: "Убрать старую ведьму"! А Лявон стаяў і думаў. "Маці, маці! Перад кім ты трациш свой гонар? — і злосьць прыдала яму сілы: трэснула вяроўка, сьціскаўшая яму рукі. "Але, што гэта? Пачаўся нейкі крык, і з хлява выцягнулі Зосю — яго сястру.

— А, вот красавица! — радасна крыкнуў начальнік.

— Куда прыкажаце яе, таварыш Вендраў, — падбег да яго, пытаючы, адзін краснаармеец. — На сено, ілі в ізбу?

— Тащи на сено! — падаў ён каманду, і бедную дзяўчыну пацягнулі ў гумно, а за п'янай ватагай, ухмыляючыся, пайшоў Вендраў, але чуць толькі ён параўняўся зь Лявонам, як той з пракляцьцямі кінуўся на яго і схапіў зладзея за горла.

— Сюда! — пасьпеў крыкнуць зладзей. Каля дзесяці рук наваліліся на Лявона, а высвабоджаны член "ч.-к." з пенаю ў роце закрычаў: "А, ты нападать? Так вот-же тебе, контрреволюціонер! — і выхваціў з-за паяса ляварвэр.

— Ратуйце! — закрычала не сваім голасам матка Лявона, і нежывая пала на зямлю.

## Бог на помач

Усё гэта бачыў Шнуроўскі са сваімі людзьмі, прытаіўшыся ў каноплях на згародах навокала хаты, і вось калі ўжо сьмерць глядзела ў вочы Лявона, і загаласіла яго маці, грукнуў стрэл. Пакаціўся на зямлю член "ч.-к." У той жа міг панёсься зычны голас:

— Сябры! Лупі нехрысьцяў!

Як анёлы сьмерці, паляцелі зеленадубцы на ашалеўшых і нічога ня сьцяміўшых красных д'яблаў. Адзін за адным гінулі яны пад цяжкімі ўдарамі зеленадубцаў. Праз хвілю трупамі ляжалі ўсе абідчыкі. Кінуўся Пётра да Лявона; абняліся, заплакалі браты; падбегла Зося; выйшаў стары айцец з хаты; адлілі вадою старую маці. Убачыла яна сваіх дзетак і заплакала, але ўжо сьлёзы радасьці цяклі па яе старому твару. Жагнаўся на сонца стары бацька і вітаў сыноў і збавіцеляў сваіх.

## Вялікі дзякуй

А Шнуроўскі сабраў усіх людзей сваіх і яго зычны голас дрыжаў у раньнім паветры:

— Прымеце, хлопцы, гэтых сабак, ды закапайце за аколіцай у балоце!

Хутка сьцягнулі забітых, хутка закапалі і сышліся ўсе перад хатай Пётры, а Шнуроўскі крыкнуў усім:

— Вялікі вам дзякуй, сябры, за добрую работу!

— Рады старацца, пане старшыня! — адмовай грукнулі зеленадубцы. Далёка, далёка панесьліся адгалоскі збавіцеляў.

Хай ведае кожны з нашых ворагаў: за аднаго нашага сябра згіне іх са сьвету болей як сто.

**В. Адамовіч**

*"Звон", "Беларусь", 1919 г.*



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



## Віктар Шніп

***

*Ты гаворыш, што мы жывем у Эўропе,*
*Але чаму тады мы такія?*
*І вецер б'ецца ў шыбы,*
*Як у абледзянелыя ветразі карабля,*
*Які разьбіўся аб бераг,*
*Дзе ніхто ня ведае,*
*Які гэта сьвет...*
*А за вакном маім*
*Суседні дом,*
*Як вялікая кардонная скрынка,*
*І чорныя бязьлістыя дрэвы,*
*Як адзервянелы дым,*
*Празь які праляцела ведзьма...*
*Ты гаворыш, што мы жывем у Эўропе...*
*І гляджу я ў неба,*
*Як у столь,*
*Якая абрасла мохам,*
*І птушкі, якія лётаюць над намі,*
*Не здаюцца мне анёльскімі,*
*І зоркі, якімі мы цешымся,*
*Гэта толькі зоркі,*
*А ня райскія кветкі...*
*Ты гаворыш, што мы жывем у Эўропе...*
*Ты гаворыш, што мы жывем...*

***

*Мы — апошнія дзеці Жанчыны,*
*Нам прыйсьці да магілы яе,*
*Выпіць нам разьвітальныя віны,*
*Дзе грахі мы тапілі свае.*
*Мы таксама памром і над намі*
*Зьнікнуць зоры і зьнікне сьвятло,*
*І начнымі ўзьляцім матылямі*
*Па-над тым, што ў нас ёсьць і было.*
*Мы — апошнія словы Жанчыны.*
*Мы — малітва над крыжам дарог,*
*Дзе пад восеньскім лісьцем асіны*
*Сьпіць сьвятло, нібы стомлены Бог.*

### У ГЛУШЫ

*Ціхі дождж вар'яцее з самоты*
*І мне ў вокны ў цямнечы грукоча,*
*Быццам нешта сказаць ён мне хоча,*
*Быццам ведае скон адзіноты.*
*Толькі мне не патрэбна нічога,*
*Тут у гэтай праклятай глушы,*
*Дзе, як воўчая песьня, дажджы,*
*Дзе ўтанула ў калюгах дарога.*
*Ціхі дождж вар'яцее з самоты,*
*І далёка яшчэ да суботы.*
*А што будзе ў суботу — ня знаю.*
*Я суботу люблю*
*і суботу чакаю.*

***

*Поўнач. Сьпяшаюцца людзі дахаты.*
*Бедны — пяшком, на машыне — багаты.*
*Вецер па вуліцах гоніць сьмяцьцё.*
*Дождж і, як дождж, гарадзкое жыцьцё.*
*Сонна блішчаць ліхтары і калюгі,*
*Ля рэстаранаў, як мухі, п'янюгі.*
*Можа таксама напіцца, заснуць,*
*І хай вятры, як сьмяцьцё, панясуць,*
*Кінуць у неба начное, гнілое?..*
*Можа аддацца ў абдымкі дажджу?..*
*Можа ад суму ўцячы за мяжу?..*
*Толькі ўсё гэта ня тое, ня тое...*
*Поўнач. Сьпяшаюцца цені дахаты.*
*Вецер на хмарах чапляе плякаты...*

***

Не хадзіце за мной!
А. Сыс

*Вы за ім не хадзіце, бо ён валацуга*
*І ўсе словы яго — ад нячыстага духа.*
*Нават плача калі — ён сьмяецца над вамі,*
*Не хадзіце за ім, як казлы за казламі.*
*Ён ня любіць усіх, вас прадасьць за жанчыну*
*І вяльможнаму пану і сабачаму сыну.*
*Вы за ім не хадзіце і ня трэба за мною,*
*Я таксама яшчэ не адмыўся ад гною,*
*А ідзіце за тым, хто век будзе сьвятым,*
*Што над вамі ўзьляціць, як над вогнішчам дым...*
*І над вогнішчам дым узьлятае, зьнікае*
*І яго аніхто тут назад не чакае.*


Малюнкі Сяргея Харэўскага

# Я марыў стаць

**Уладзімер Арлоў**

Сёньня ня будзем гаварыць ні пра паэта, якога амаль год трымаюць у турме за легкадумны вершык, ні пра чыесьці спаленыя партрэты, ні пра новыя арышты.

Давай уявім, што там, за вакном, звычайная для Эўропы прыпозьненая вясна, і я раскажу табе якую-небудзь займальную гісторыю, штосьці такое, аб чым мужчына і жанчына, якія адчулі прыхільнасьць адно да аднаго і ўжо ня першы год адчуваюць яе да добрага чырвонага віна, могуць гутарыць цяпер за столікам кавярні недзе там, дзе разьлічваюцца кронамі альбо крэдытнымі карткамі.

Напрыклад?.. Напрыклад, калі пачынаць ab ovo*, паслухай, кім я марыў стаць у дзяцінстве.

Зрэшты, я выказаўся не зусім дакладна. Мары вырастаюць на падмурку хоць нейкага жыцьцёвага досьведу, а я зьбіраюся казаць пра свае першыя гады, калі толькі пачынаў адасабляць сябе ад навакольнага сьвету, калі дарослыя ўжо бралі мяне з сабою ў кіно (тэлевізараў на нашай вуліцы ды, пэўна, і ва ўсім горадзе тады не было), але кніга яшчэ доўга заставалася таямніцаю за сямю пячацямі. Тут, згадзіся, трэба весьці гаворку не пра асэнсаваныя мары, а пра своеасаблівыя сны наяве...

Калі ласка, бутэлечку ламбрускі. Што яшчэ? Два келіхі і попелку.

Так, менавіта пра сны наяве, тлумачыць якія мы павінны зыходзячы не зь іх літаральнага сэнсу, а паводле той самай мэтодыкі, што і сны звычайныя, у якіх злоўленая рыба абяцае не рыбалку, а цяжарнасьць, а пажар — грошы.

Калі ў такім узросьце ў дзіцяці пытаюцца, кім яно хоча стаць, то вядуць дыялёг з падсьвядомасьцю, а таму трохі дзіўна, што дзіцячым адказам на гэтае сакрамэнтальнае пытаньне не надавалі належнае ўвагі адэпты псыхааналізу.

Афіцыянт не сьпяшаецца, і з твайго дазволу я пачну з таго, што выдатна памятаю, ня толькі тое, кім хацеў быць, але й тое, кім ні ў якім разе не хацеў. Прычым гэты антывыбар, у адрозьненьне ад выбару са знакам плюс, нярэдка, як гэта здараецца і ў сьвеце дарослых, быў абгрунтаваны значна лепей. Вытлумачыць, чым той ці іншы чалавек табе недаспадобы, заўсёды, на мой погляд, прасьцей, чым знайсьці прычыны сваёй прыхільнасьці.

Дык вось, гадоў з дзвух з паловай я быў перакананы, што ніякая сіла ня змусіць мяне, як вырасту, зрабіцца сьледчым.

Сьледчым працаваў дзядзька Чаглей, які жыў у нашым драўляным доме праз сьценку.

Дзядзька Чаглей прыехаў у Полацак зь Сібіры, але ў той дзень, калі ён падхапіў мяне сваімі дужымі валасатымі рукамі падпашкі і падкінуў над галавой, а я з гэтае верхатуры абсікаў яму бліскучы плех, у той дзень пра паходжаньне нашага суседа, як і пра існаваньне ягонай далёкай радзімы, я і не здагадваўся, а мой пругкі і трапны струменьчык нарадзіўся не ад нейкага перададзенага праз гены асаблівага пачуцьця да сібіракоў або да міліцэйскіх сьледчых, а ўсяго толькі ад лішку радасных пачуцьцяў, што перапаўнялі маю юную істоту.

Тым ня меней, пасьля гэтага бяскрыўднага здарэньня дзядзька Чаглей да скону дзён зьнелюбіў мяне. Ён ніколі — дарма, што сваіх дзяцей яны зь цёткай Клавай, якую ўсе звалі Чаглеіхай, не дачакаліся — не частаваў мяне ні цукеркаю, ні марозівам, наогул нічым, апрача нязьменна насупленага калючага позірку, якім апошні раз адарыў з труны пасьля сваёй раньняе сьмерці ад хваробы са сьмешнаю назваю "рак".

Малюючы гэтую псыхалягічную сытуацыю, можна знайсьці безьліч іншых дэталяў, аднак галоўную ролю ў маім рашучым нежаданьні рабіцца сьледчым адыгралі не Чаглеевы п'янкі і не абванітаваныя жоўтыя вяргіні пад нашымі вокнамі, а — грыбы-лісічкі, якія мама смажыла з цыбуляй і якія наш сусед прынцыпова ня еў, заяўлячы, што ў іх у Сібіры такую смакату ўважаюць за паганкі і ўвогуле зьбіраюць адны баравікі. Помсьцячыся сібірскім дзікунам за лісічкі, я і паставіў на прафэсіі сьледчага вечны крыж.

Наступнай непрыймальнаю ні пры якіх умовах была прафэсія цырульніка. Тут мая непахісная наважлівасьць вынікала з бацькавых аповедаў пра франтавога сябра, які ў нейкім вугорскім гарадку, пакуль мой тата-лейтэнант пазіраваў перад фотаапартам, зайшоў у цырульню пагаліцца і прапаў. Потым тата разам з "нашым" патрулём знайшоў мёртвага сябра ў сьпіжарні — над тазам крыві і зь перарэзаным ад вуха да вуха горлам.

Да пятай клясы я наадрэз адмаўляўся хадзіць у нашую цырульню "Ландыш", і бацькі мусілі купіць ручную машынку і карнаць мае шорсткія кудзеры каля кухоннае пліты. Напоўнены цёмнай крывёю таз, відаць, адклаўся ў самой геннай памяці, бо ў мяне ніколі не паўставала дылемы: насіць бараду альбо не, і ніводнага разу ў жыцьці я так і ня зьведаў, што значыць пагаліцца ў цырульні.

Але найбольш зацята я не хацеў — не зьдзіўляйся — стаць кампазытарам. Я проста панічна баяўся гэтага, бо ў размовах бацькоў і іхных знаёмых кампазытар быў нязьменным пасьмешышчам. На лавачцы каля дому ці ў нейкай застоліцы, паміж сьвежымі гарадзкімі плёткамі і сакрэтамі марынаваньня гуркоў і памідораў, хтосьці абавязкова згадваў "нашага кампазытара", і хутка прысутныя клаліся ад рогату, зноў і зноў пераказваючы тую гісторыю і аздабляючы яе ўсё новымі маляўнічымі драбніцамі. Жанчыны паказвалі на дзяцей і трэсьлі на мужоў пальцамі,

* *Літаральна "ад яйка"; з самага пачатку (лац.).*



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# Крылцы

Алег Дашкевіч

Дождж ішоў шосты дзень. Над лесам стаяла сьцяна вады, якая, здавалася, пранікла паўсюль. Цёмнае шэрас неба надзейна схавала сонца. За шэсьць дзён яно ня выглянула ніводнага разу. Лес згубіў свае краскі, свой колер. Ён таксама стаў шэрым, аднолькавым. Ужо ня можна было адрозьніць клёна ад ясеня, ліпы ад бярозы, елкі ад сасны. Вільгацьцю набрыняла ўсё навокал: дрэвы, зямля, паветра... Усё пахавалася. Усе спрабавалі перачакаць нечаканую непагадзь. Але дождж не спыняўся. Неба выцякала на зямлю. Вада прыбывала. І надыйшоў момант, калі невялікае лясное балота пачало імкліва расьці. Зьмешваючыся з дажджом гнілая балотная вада, раней турбаваная толькі жабамі ды балотным духам, рушыла за межы балота. Гэты рух быў надзвычай хуткі. Брудны паток, не разьбіраючы дарогі, падбіраў на сваім шляху трэскі, апалае лісьце, галінкі дрэваў, выдзіраў з коранем лясныя кветкі, траву. Усё гэта, перамяшанае з пылам, круцілася, віравала, то зьнікаючы ў глыбіні, то зноў апынаючыся на паверхні.

Там, куды балота працягвала свае шчупальцы, не заставалася нічога чыстага. Ручаі і крыніцы ператвараліся ў мутныя лужыны, апынуўшыся пад тоўшчай балотнага бруду. Цьвёрдая лясная глеба разьядалася гэтай заразай і станавілася ліпкай і склізкай. Яна больш не магла ўбіраць у сябе тую чорную жыжу.

Лес адступаў. Дрэва за дрэвам, паляна за палянай, крыніца за крыніцай. Лес пакрысе ператвараўся ў балота. У ім пачаў уладарыць смуродны дух балотнага дна. Лес задыхаўся ў мёртвых абдымках дрыгвы.



Бяда закранула ўсіх. Сьмярдзючая чорная жыжа, што выходзіла з самых глыбіняў, разбухала, падымалася да пагоркаў, а затым, імкліва выпрастаўшы па лагчынах свае агідныя лапы, кідалася далей...

Мураш цягнуў трэску. Трэска была вялізная і цяжкая. Ён высільваўся так, што, здавалася, яшчэ крыху і разарвецца. Але ён цягнуў. Склізкая глеба і дождж рабілі яго справу невыноснай. Але ён цягнуў. Ён ратаваў мурашнік. Хвалі разьюшанага балота былі побач. Мурашнік апынуўся ў кальцы. Пагорак, на якім ён стаяў, усё мацней абдымалі чорныя балотныя лапы. З аднаго боку вада падступіла амаль ушчыльную і пачала падмываць мурашнік. Мурашы ўпарта змагаліся. На зьмену вымытаму зьяўляліся новыя трэскі, каменьчыкі, сасновыя голкі.

Умацаваўшы сваю трэску, мураш кінуўся па іншую. Побач, як завадныя, сноўдалі ягоныя браты. Мурашы баранілі свой дом.

Недзе там, унутры, разам са сваёй вартай, ахоўваючы нашчадкаў, сядзеў мурашыны кароль. Кароль быў звычайны, з ганарлівай паставай, з каронай на галаве і крылцамі за сьпінай. Мурашы, як добрапрыстойныя падданыя, гатовыя былі памерці за свайго караля. Яны ратавалі мурашнік, караля і нашчадкаў адчайна, не шкадуючы сябе. Але... сілы былі няроўныя.

Падняўся вецер і яшчэ зьлей пагнаў хвалі бруднай балотнай жыжы на сьцены мурашніка. Шэрагі мурашоў радзелі, ўжо не адзін зь іх быў зьнесены вірлівым патокам невядома куды і настаў час, калі падмытая сьцяна мурашніка пад чарговым ударам балота рухнула долу.

На імгненьне ўсё сьцішылася, толькі было чуваць, як дрыжыць ад удару мурашыны дом.

Раптам на самай вяршаліне скалечанага мурашніка мурашы ўбачылі свайго караля. Мурашы глядзелі на яго неадрыўна. Зьнізу было не разабраць ягоных вачэй. Толькі постаць і тусклы бляск кароны. Каралеўскія падданыя чакалі нейкага знаку свайго караля, яны ўглядаліся ў вышыню, яны прагнулі гэтага знаку. Але...

Зьверху яму было відаць, як сунецца на мурашнік гнаная ветрам цяжкая балотная хваля.

Яны ўнізе ня бачылі яе. Яны глядзелі на свайго караля і гатовыя былі за яго памерці. Яны чакалі знаку.

Раптам кароль узмахнуў каралеўскімі крылцамі, адарваўся ад свайго мурашніка і паляцеў. Кароль ляцеў да суседняга мурашніка, дзе балота не падыйшло так блізка. Кароль мусіць быць у бясьпецы, думаў кароль. Але раптам парыў ветру штурхнуў караля, закружыў яго ў паветры і карона, якая тускла паблісвала пад дажджом і па якой яшчэ можна было сярод агульнай шэрасьці пазнаць караля, сарвалася зь ягонай галавы, паляцела ўніз, туды, дзе заставаліся ягоныя падданыя.

Мурашы сьцішана назіралі, як ляціць да іх карона іхнага караля, як яна ўдарыецца аб зямлю... Усьлед за гэтым цяжкая балотная лапа накрыла мурашнік. Яна мусіла зьнесьці яго, але чамусьці ён устаяў. Згубіў яшчэ кавалак сваёй сьцяны, але ўтрымаўся.

Мурашы гэтага не заўважылі, яны глядзелі то на карону, то ў той бок, дзе растаў у шэрым небе іхны кароль.

Так скончыўся шосты дзень дажджу, але ня скончыўся дождж. Зь цемры паўзла ўжо новая небясьпека. Яна паўзла бясшумна.

Ударыла маланка. Мурашынае здранцьвеньне зьмянілася мітусьнёй. Але мураш глядзеў на свой дом. Там заставаліся нашчадкі. Яны былі бездапаможныя. Іх трэба было бараніць. Напружыўшыся, ён падхапіў цяжкую сасновую голку і павалок яе да разбураных сьценаў. Ён ня бачыў, як за ім пабеглі астатнія.

Маланка, раскалоўшы неба, ударыла ў

Працяг на старонцы 14.

# шпіёнам

але засьцярогі былі перастрахоўкаю: хоць малечы кшталту мяне і заходзілася ад сьмеху заадно з дарослымі, зьвязаць зьвесткі пра нейкую палюбоўніцу, пра пастаўленую ёй на адным месцы пячатку музычнай школы і пра мужаў пісталет, ад кулі якога кампазытар мог загінуць, аднак яму хапіла спрыту ўцячы і схавацца дзесьці ў Менску, зьвязаць усё гэта ў адзін ланцужок мы былі яшчэ ня здольныя.

Ну вось нарэшце і віно. Такое? Тады — за тваё ўменьне слухаць.

Разьвіцьцё тых падзеяў ва ўсім іх ужо міталягізаваным трагікамізме я ўявіў клясе ў восьмай, калі ў музычнай радыёперадачы назвалі прозьвішчы даволі вядомага і цяпер кампазытара і праз незачыненыя дзьверы я міжволі падслухаў, як пракамэнтаваў паведамленьне мой бацька, чалавек наогул суровы і ня надта гаваркі, але зь несумнеўным талентам апавядальніка.

Той, каго называлі кампазытарам, у гады майго маленства працаваў дырэктарам гарадзкой музычнай школы, пісаў песьні на вершы мясцовых паэтаў і круціў раман з афіцэрскаю жонкай. Як я зразумеў, звычайным месцам іх спатканьняў быў дырэктарскі кабінэт, у якім дзеля такіх выпадкаў стаяла, як выказаўся мой бацька, дзяжурная канапа. Аднойчы на гэтай канапе кампазытар і паставіў сваёй пасіі там, дзе сьпіна пераходзіць у больш спакусьлівую частку цела, казённую пячатку.

Цяжка сказаць, якая лёгіка штурхнула яго на гэты неардынарны крок: ці то раптам разгуляліся ўласьніцкія інстынкты, ці то пячатка, як тая знакамітая чэхаўская стрэльба, мусіла "стрэліць" ужо з прычыны адной сваёй прысутнасьці на месцы дзеяньня. Але што б там ні было, на тым самым адмысловым месцы ў кампазытаравай абраньніцы зьявіўся фіялетавы адбітак з надпісам: "Полацкая дзіцячая музычная школа". Надпіс, бясспрэчна, атрымаўся добра чытэльны, іначай муж-афіцэр не схапіў бы ўначы пісталет, і праштампаванай прыгажуні ня трэба было б праз тэлефон папярэджваць каханка аб небясьпецы, а таму — ратавацца ўцёкамі, каб урэшце пераехаць у Менск, скончыць кансэрваторыю, сапраўды зрабіцца кампазытарам і доўгі час не выступаць перад публікай, пабойваючыся, што ў залі можа апынуцца афіцэр зь пісталетам.

Карацей, кампазытарам у маленстве я не згадзіўся б стаць ні за якія грошы, нават за тыя, што бацькам ніколі не хапала, каб купіць мне ровар, на якім я, на свой сорам, так і не навучыўся езьдзіць.

Затое мяне ня трэба было ўгаворваць на вадалаза.

Згодны, давай вып'ем за маю першую мару.

Вадалазаў я ўпершыню ўбачыў, калі ў Дзьвіне ўтапілася дзяўчына з суседняй вуліцы.

Яны прыяжджалі ўраньні на машыне-"казьле" і марудліва, як на запаволеных кінакадрах, выгружалі на бераг свае мудрагелістае прычындальле. Найбольшае захапленьне ў маёй душы выклікалі боты з таўшчэзнымі алавянымі падэшвамі, якія мы не маглі нават зрушыць зь месца, і круглы шалом зь вялізнымі вачыма-ілюмінатарамі.

На трэці дзнь дзяўчыну выцягнулі з дна і, закруціўшы ў брызэнт, некуды павезьлі.

Вартаўнік лодачнай станцыі дзядзька Мойша сьцьвярджаў, што за кожнага знойдзенага тапельца даюць вялікую прэмію. Прашамацела чутка, што дзеля гэтага вадалазы самі топяць людзей, чапляюць ім да ног камяні, а потым "знаходзяць" у прыкмечаным месцы.

Я ня верыў. Я быў пэўны, што тапельцаў у Дзьвіне ня будзе бракаваць і бяз гэтага, уяўляў, як выpасту і буду гэтаксама абуваць цяжэзныя боты і шалом з ілюмінатарамі, да якіх пад вадой будуць падплываць і — вочы ў вочы — глядзець на мяне дзьвінскія шчупакі. Я буду добра шукаць тапельцаў і часта атрымліваць прэміі, а пасьля самавіта расьсьцілаць на траве газэціну, нясьпешна кроіць на ёй сала, ня моршчачыся піць з пляшкі з малінавай галоўкаю гарэлку і мачаць зялёны хвост цыбулі ў гарбачку солі. Кульнуўшы апошнюю чарку і са смакам дажаваўшы белую галоўку цыбуліны, я буду закурваць і, як старэйшы вадалаз дзядзя Коля, напяваць загадкавы выраз: "Пара-пабабам, пара-па-бабам..."

Апрача тапельцаў, я павінен быў знайсьці на дне ракі яшчэ і жалезную скрынку грошай. Цікава, што тапельцы мне ўпарта ня сьніліся, а вось скрынку я бачыў у сьне шмат разоў і дакладна ведаў, як яна будзе выглядаць: абраслая пэрлавіцамі і спавітая багавіньнем, з пудовым іржавым замком і белым чэрапам са крыжаванымі косткамі, акурат такім, які быў намаляваны на трансфарматарных будках і які ў нас чамусьці называлі іванам іванавічам.

Тапельцы прысьніцца мне так і не пасьпелі, бо пасьля таго, як дзядзьку Чаглея завезьлі на могілкі, у нас зьявіўся новы сусед, а разам зь ім і мая новая мроя.

Суседа, які пасяліўся на кватэры ў жонкі сьледчага Чаглея, звалі дзядзькам Жэнем, і ён працаваў паталягаанатамам. Вымавіць гэткае складанае слова, як і ня менш складаную першую літару ягонага імя я, вядома, ня мог, і таму казаў, што калі вырасту вялікі, буду, як "дзядзя Зеня".

У дзядзьку Жэню мне не падабалася толькі адно: абсалютна неспасьцігальнае нежаданьне хоць раз узяць мяне з сабою на працу.

Усё астатняе страшэнна падабалася.

Падабалася, што ад нашага новага суседа заўсёды струменіў рэзкаваты пах адэкалёну, які наводзіў на думку, што там, дзе дзядзька працуе, якраз адэкалён і робяць.

Падабалася дзядзіжэнева жонка, цётка Таня, якая ўлетку амаль кожны дзень купляла мне за 90 дарэформавых капеек малочнае марозіва.

Падабаліся нават няўцямныя і ня надта прыхільныя размовы, што круціліся вакол іхнае сям'і.

Дарослых немаведама чаму абыходзіла, што дзядзька Жэня і цётка Таня нейкія "нерасьпісаныя".

Працяг на старонцы 14.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# Крылцы

Працяг са старонкі 13.

стары клён, што жыў побач з мурашамі. Праз выбух і агонь яны ўбачылі яе, вялікую балотную пачвару, якая, нібы зьмяя, прагна цягнулася да іхнага дому. Яна была ўжо блізка, так блізка, што мураш адчуў яе подых. Сьмешна, што маглі зрабіць маленькія мурашы супраць гэтай чорнай лавіны. Яны маглі адно — не спалохацца. Счапіўшыся паміж сабой, яны чакалі яе пад разбуранымі сьценамі мурашніка. Яны яе не баяліся, яны бачылі яе звыродлівы твар і мутныя вочы. Яны моўчкі глядзелі ў гэтыя вочы. Проста. Ва ўпор.

Балота набліжалася. Вантробна рыкаючы і хлюпаючы. Мурашы, ахопленыя нейкай сьветлай ярасьцю, упарта глядзелі на пачвару. Ніхто не адвёў позірку. Іхныя крохкія сашчэпленыя паміж сабой цельцы ў гэты момант былі крапчэй за сьцены іхнага мурашніка. Яны адчувалі гэта і... пачвара ня вытрымала. Ейныя мутныя вочы хіснуліся ў бок, пасьля ў іншы. А калі яшчэ больш надзьмуўшыся, яна пасунулася далей, зьверху проста на яе звалілася палаючая галіна старога клёну. Чорная гадзіна зашыпела ад болю і злобы, шукаючы выйсьця, кінулася з боку ў бок, і зь віскам папаўзла назад.

Астатак ночы дождж то сьціхаў, то мацнеў. Вецер, які гойсаў навокал, шкуматаў шэрыя хмары. Апаленая маланкай цяжкая кляновая галіна надзейна ахоўвала мурашнік, не пускаючы да яго балота. Мурашы мацавалі свой дом. Пад самую раніцу скрозь разадраныя ветрам хмары на стомлены лес глянула першая за апошнія шэсьць дзён зорка.

Ранкам сёмага дня на небе не было ніводнае хмаркі. Сонейка ласкава песьціла Лес, які пад цёплымі промнямі хутка аднаўляў сваю шматколернасьць. Балота імкліва ўцякала прэч. На сваё месца. Лесу аб ім напаміналі толькі шэрыя шнары, сьляды ўчэпістых балотных лапаў. Усё прыходзіла да парадку.

Мурашыны кароль без кароны лётаў па іншых мурашніках, але нідзе яго не прымалі за сапраўднага караля.

Па-першае, паўсюль былі свае каралі, па-другое, паўсюль яны былі з каронай.

Каму патрэбныя не свае каралі ды без кароны?

Так ён лётаў з мурашніка ў мурашнік, паўсюль даводзячы, што ён кароль, да тае пары, пакуль на яго проста ня сталі зважаць. Але ён перастаў зважаць на тое, што на яго не зважаюць і ўсё лётаў, і лётаў. Даводзіў і даводзіў...

Аднойчы, прачнуўшыся, ён звыкла зьбіраўся ўзьняцца ў паветра, але... але ўзьнімацца не было чым. Ягоныя крылцы адпалі і скурчаныя ляжалі на зямлі. Калі ж ён дакрануўся да іх, яны імгненна рассыпаліся, ператварыліся ў пыл і зьніклі...

Ягоныя былыя падданыя парадкавалі свой дом. Яны аднавілі сьцены мурашніка, расчысьцілі ўвесь бруд, што нанесла балота і, як маглі, апекаваліся сваімі нашчадкамі, што былі ўнутры мурашніка. Але мурашам было вельмі крыўдна, што ў іх няма свайго караля. Свайго. Сапраўднага. З празрыстымі срэбнымі крылцамі і залатой каронай. Які б здолеў не губляць яе ніколі. Мураш марыў аб гэтым таксама. Аднойчы ён занядужаў. На наступны дзень усе ўбачылі ў яго за сьпінай крылцы. Яны былі сапраўдныя, каралеўскія. Гнуткія, празрыстыя і маленькія.

Усе ўсё зразумелі. Крылцы расьлі вельмі хутка і ўрэшце, настаў час, калі, узьдзеўшы карону, мураш узьляцеў на вяршыню свайго мурашніка.

Лішне казаць, што новыя крылцы вырастаюць толькі тады, калі адпадаюць старыя.

# “Прочтите, пожалуйста...”

Славамір Адамовіч

30 траўня ў сталічным Доме літаратара адбылася сустрэча аўтараў і супрацоўнікаў рэдакцыі “НН” з чытачамі. На жаль, атрымалася так, што пасьля прачытаньня сваіх вершаў я ня змог адказаць на пытаньні з залі. А было іх ня так і шмат, адрасаваных мне, усяго тры. Перапрашаю і адказваю.

... *Часта, гаворачы пра Вас, прыпамінаюць Мядзельскі раён, Сьвірскае СПТУ-17. Якое дачыненьне Вы маеце да Мядзельшчыны?.. Мядзельчанін!*

Дачыненьне маю самае непасрэднае: Мядзельшчына — Радзіма маіх продкаў з роду Адамовічаў, Чантарыцкіх, Роўдаў. Тут, на гарызанталі Будслаўе — Крывічы, прайшло маё дзяцінства. У 1977/1979 гадах вучыўся ў СПТВ-17 (цяпер — СПТВ-207). Гэты своеасаблівы “ліцэй” для беларусаў пад акупацыяй скончылі мой дваюрадны брат Раман Чантарыцкі (хай будзе лёгка ягонае душы там, куды мы толькі зьбіраемся) і родная сястра Натальля (няхай удасца ёй маладое жыцьцё). Чуў некалі, што і маё першае каханьне жыве цяпер у Мядзеле, працуе ў школе. Сустрэнеце — перадайце прывітаньне Лоле Ісачанцы. Чвэрць стагодзьдзя таму назад гэта было самае прыгожае русавалосае стварэньне ў Будслаўскай СШ. Прозьвішча, вядома, дзявочае. Дай, Божа, радасьці дачцы роду Ісакавага!

... *Чаму Вы ніколі не чытаеце апошні верш з гэтай кніжыцы?*

Пад “гэтай кніжыцай” маецца на ўвазе зборнік “Каханьне пад акупацыяй”. Апошні верш у ім — “Разьвітальная для Сашкі” — я чытаў у 1995 годзе перад маладзёжнай аўдыторыяй, якая адзначала Купальле ў сталічным парку імя Горкага. Празь некалькі дзён пасьля публічнага акту дэклямацыі мяне выклікалі ў пракуратуру горада і запатрабавалі тлумачэньня на прадмет таго, зь якім такім Сашкам я разьвітваюся. Шкада, што не пакінуў копіі таго тлумачэньня. Будзем спадзявацца, некалі яно ўсё ж патрапіць у рукі гісторыкаў. Як дакумэнт часоў духоўна-прававой акупацыі Беларусі.

Згаданы верш чытаў я 23-га сакавіка ў час мітынгу на плошчы імя Якуба Коласа. А ўвогуле гэта ня самыя ўдалыя радкі, хоць і актуальныя. Няхай над імі плачуць акупанты, а мы будзем сьпяваць пра любоў.

*Прочтите, пожалуйста, “Убей президента”.*

Ужо другі год доўжыцца крымінальная справа, узбуджаная па факце публікацыі названага верша. У 00 гадзінаў 36 хвілінаў другога чэрвеня я сядаю на цягнік “Баранавічы — Полацак”, каб у дзесяць гадзінаў раніцы паўстаць перад пракурорам Чэчкам і судзьдзём Гурко Віцебскага аблсуда, якія працягнуць спробы даказаць, што верш “Убей президента” сапраўды зьяўляецца заклікам да забойства канкрэтнай асобы — прэзыдэнта РБ А.Р. Лукашэнкі. Калі ж гэткае ня будзе даказана, то аўтар надалей зможа дэклямаваць і публікаваць верш безь небясьпекі ізноў быць затрыманым. Праўда, магчымы варыянт прыняцьця судом альбо пракуратурай спэцыяльнага распараджэньня пра забарону на публічнае выкананьне твора. Думаю, на вечарыне 30-га траўня верш “Убей...” не прагучаў перш за ўсё з увагі на іншую, немітынговую эстэтыку і энэргетыку літаратурна-прэсавай акцыі. “Убей президента” належыць вуліцам, плошчам і залям судовых паседжаньняў...

**1 чэрвеня 1997 году, Менск**

***Ад рэдакцыі. Як ужо паведамлялася ў друку, Віцебскі аблсуд усё ж прызнаў верш Адамовіча за злачынства і прысудзіў паэту 10 месяцаў зьняволеньня — той тэрмін, які Адамовіч ужо адседзеў у сьледчым ізалятары...***

# Я марыў стаць шпіёнам

Працяг са старонкі 13.

На маю думку, не было нічога кепскага і ў тым, што яны “нерасьпісаныя”, і ў тым, што, каб ехаць у адпачынак у купэ ўдваіх, дзядзька Жэня купіў у купэйны вагон ня два, а чатыры білеты.

Яшчэ падабалася, што, калі на сьвяты цётка Таня клікала маіх бацькоў да сябе пасядзець, на стале ў нашых суседзяў стаяла не гарэлка, а віно.

Ты ведаеш, я не забыў, як яны паміж сабою чокаліся. Кожны раз тройчы: спачатку звычайна, потым вось так, яе келіх зьверху, а потым — зьверху ягоны.

Яны абое былі высокія, станістыя і чарнявыя. Дзядзька Жэня насіў прыгожыя чорныя вусы, у цёткі Тані над верхняй вусьнінай таксама прабіваўся цёмны пушок, які па часе абяцаў ператварыцца ў акуратныя вусікі. Я думаў, што, можа, з гэтае прычыны Чаглеіха і казала пра кватарантаў за вочы — “мае жыды”.

Аднаго разу бацькі, кудысьці зьехаўшы, даручылі клопаты пра мяне дзядзіжэневай жонцы і, калі мы пайшлі палуднаваць у сталоўку гарадзкога Дому афіцэраў і цётка Таня замовіла несусьветна смачную, як мне здавалася, страву з экзатычнаю назваю “шніцэль”, а потым сустрэла сяброў і тыя запыталіся, ці ня ейны я сын, а яна адказала, што так, ейны, і пацікавілася ці падобны я да яе, тады, памятаю, мне было ніякавата зусім не таму, што такім чынам я сам таксама трапляў у лік “жыдоў”. Я чуў лёгкі сорам, што гатовы адмовіцца ад родных бацькоў, але зрабіць з сабою нічога ня мог: калі ў паталягаанатамы бяруць толькі “жыдоў”, я згодны быў запісацца ў “жыды”.

Усё на сьвеце канчаецца, прычым у дзяцінстве гэта адбываецца хутчэй.

Ці то паўплывала празьмерная сакрэтнасьць прапахлай адэкалёнам дзядзіжэневай прафэсіі, ці то прарасло пасеянае фільмамі пра “нашых” разьведчыкаў зерне савецкага патрыятызму, але аднойчы раніцай я прачнуўся зь цьвёрдым намерам пайсьці ў шпіёны.

П’ем за нашых шпіёнаў!

Мяне вабіла ня столькі рамантыка, як канкрэтнасьць гэтага занятку.

У адрозьненьне ад духмяна-таямнічых сфэраў паталягаанатамаў, тут усё выглядала ясна і проста, як яблык-антонаўка з нашага саду.

Мяне і маю радыстку павінны былі скінуць з самалёта над Амэрыкай, каб мы прабраліся ў галоўны амэрыканскі штаб і скралі плян атамнай бамбёжкі Савецкага Саюзу. Ваганьняў наконт кандыдатуры напарніцы не існавала: радысткай будзе маё першае мужчынскае захапленьне — дачка дырэктара мамінай школы Людачка, зь якой я ўпершыню сустрэўся чатыры гады таму на навагодняй ёлцы. Наша раптоўная ўзаемная сымпатыя аказалася такой моцнаю, што мы дружна намачылі штонікі і потым цэлы год я вымагаў ад мамы завязаць мне хустачку і абвяшчаў, што хачу быць Людачкай. (Напэўна, гэты момант варта адцеміць: перш чым зрабіцца вадалазам, я імкнуўся пабыць жанчынай.)

Апусьціўшыся на парашутах, мы зь Людачкай пасяляемся ў маленькім брудным пакоі халоднага і змрочнага амэрыканскага хмарачоса. Мы, як дарослыя, абняўшыся сьпім у адным ложку і дзеля маскіроўкі гаворым выключна па-амэрыканску, а таксама не купляем ананасаў, каб амэрыканцы не падумалі, што іх у нас няма. З дапамогаю аднаго галоднага беспрацоўнага мурына я пракрадаюся ў штаб і, перастраляўшы з кулямёту чалавек васямнаццаць амэрыканскіх палкоўнікаў, выкрадаю плян бамбёжкі Масквы і ўсёй нашай вялікай і магутнай радзімы, пасьля чаго вяртаюся ў халодны пакойчык хмарачоса. Мая радыстка Людачка ляжыць у ложку зь незнаёмым мурынам; я ня ведаю, навошта яны ўдзень накрыліся коўдраю, але адчуваю, што, хоць амэрыканскія мурыны і за нас, тут нешта нячыстае, і таму з асалодаю ўсаджваю ў незнаёмага мурына кулямётную чаргу. З ложку ляцяць чырвоныя пырскі, але мая мужная Людачка ня плача, а перавязвае мне баявыя раны і складвае рацыю, бо пасланы па нас савецкі самалёт ужо знаходзіцца ў паветры.

Мэдалі і ордэны нам уручаў сам галоўны “наш” Хрушчоў, якога дарослыя фамільярна называлі Мікітам і лаялі за нейкую кукурузу і за тое, што ў крамах няма хлеба. Я ж, наадварот, быў удзячны Хрушчову, бо дастаткова было выйсьці зь весьніц на вуліцу, як ад чаргі, што вялізнай вужакаю вілася вакол хлебнае крамы, насустрач мне ўмомант кідалася некалькі цётак, якія ўзахапы ўгаворвалі пастаяць у чарзе разам зь імі. У выніку гэтага нескладанага манэўра крамніца давала цётцы лішні бохан хлеба, а я атрымліваў дзьвесьце грамаў зьлепленых у камяк ірысак альбо падушачак.

Ты, вядома, разумееш, што мне праглася быць шпіёнам выключна і безварыянтна савецкім.

Пэўныя сумневы на гэты конт варухнуцца ў душы толькі праз шмат гадоў у зацішным кутку бэрлінскага прадмесьця, на мастку цераз ручай на мяжы ўсходняга і заходняга сэктараў, дзе сыстэмы мянялі сваіх выкрытых агентаў.

Вось, бадай, і ўсё. Тое лета, калі я марыў стаць савецкім шпіёнам, было апошнім перад школаю, у якой нашы летуценныя цнатлівыя душы мусілі канчаткова заблытацца ў шырока раскінутым нераце ўжо зацьверджаных бяз нас ідэяў і мараў.

Але тут пачынаецца зусім іншая гісторыя.

Ты кажаш, у цябе хлопчык. У такім разе можаш лічыць, што калі цяпер ён хоча быць вадалазам, паталягаанатамам альбо шпіёнам, у яго ёсьць значныя шанцы зрабіцца беларускім пісьменьнікам.

Урэшце, апошнім часам мне зноў заманулася падацца ў шпіёны. Як ты думаеш, да чаго б гэта?



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# Дваццаць гадоў таму

Яраслаў Гашак

I

Якраз дваццаць гадоў таму прафэсар Момзэн у “Neue freie Presse” у панадным артыкуле “An die Deutschen in Oesterreich”[1] заклікаў немцаў, каб яны разьбівалі крэпкія чэскія чарапы. Аўстрыйскі парлямэнт быў сьведкам шынкарскіх скандалаў. Падпіты дэпутат Шёнэрэр пачаў крычаць, і нехта абліў яго са шклянкі вадой. У пятніцу 26 лістапада наймягчэйшай лаянкай, якой карысталіся нямецкія дэпутаты пры абмеркаваньні пытаньня аб роўнасьці моваў, было слова “быдла”. Каля прэзыдыюму распалілася сапраўдная бойка. Прэзыдэнту Абрагамавічу ледзь не разьбілі галаву цяжкой мэталёвай чарніліцай, што палічылі ўдалым жарцікам. Паліцыя вывела з парлямэнту дванаццаць дэпутатаў.

Калі імпэратар Францішак Язэп вяртаўся ў палац ад эрцгерцагіні Марыі Валерыі з Вальзэс па Марыягільфэрштрасэ, з публікі пачуўся сьвіст. Нямецкія газэты пісалі, што гэта сьвісьцелі чэскія рабочыя, і гэта было праўдай.

Імпэратар паклікаў да сябе барона Гаўчэ і сказаў яму, што граф Бадэні павінен падаць у адстаўку, бо ён славянін і спрыяе чэхам.

Так быў зьняты граф Бадэні. Немцы адразу наладзілі вялікія сьвяточныя шэсьці, палілі агнялеты і ўрэшце падпалілі дамы чэскіх хмельнікаў на Мастэцку і Духцаўску, чым паказалі свой надта высакародны характар.

На праскіх Пржыкопах гімназісты арганізавалі правакацыі, прайшоўшы калёнай ад Deutshe Mensa Academica праз Вацлаўскі пляц са сьпевам “Wacht am Rhein”[2].

У Празе ўспыхнулі антынямецкія закалоты. Прага была імгненна ачышчаная ад нямецкіх надпісаў.

1 сьнежня 1897 г. гарэла агароджа маёнтка немца Плешнэра ў Нусьлі, пачаліся сутычкі паміж народам, войскам і паліцыяй, паўсюль зрывалі арлоў і білі шыбы ў дзяржаўных установах.

2 сьнежня барон Гаўч абвясьціў у Празе надзвычайнае становішча, ахвярай якога стаў я. Гэта быў найпрыгажэйшы дзень у маім жыцьці.

Было мяне тады пятнаццаць гадоў...

II

Маладым гімназістам я вельмі імкнуўся да ведаў, што пазьней, на шчасьце, у мяне прайшло. У гімназіі на Жытняй вуліцы нас такіх было якраз двое: акрамя мяне з усяе гімназіі займаўся натуральнымі навукамі яшчэ прафэсар Гансгірг. Мы абодва захапляліся мінэраламі. Прафэсар Гансгірг быў адказны за мінэралягічную калекцыю нашай установы, я яму здабываў мінэралы, а ён на іх зь незвычайнай любоўю рабіў надрэзы.

31 лістапада ён паклікаў мяне у свой кабінэт і сказаў:

“Я высьветліў, даражэнькі хлопча, што ў Вршовіцах на вуліцы Палацкага знаходзіцца новая крама “Прырода”, якая належыць пану Гафнэру. Зайшоўшы да яго колькі дзён таму, я замовіў для нашага кабінэту калекцыю кварцаў, якую папярэдне аплаціў і ўзяў квітанцыю. Я табе даю гэтую квітанцыю і прашу, каб ты схадзіў да яго, узяў замоўленыя кварцы і даставіў іх мне. Зважай, бо на вуліцах беспарадкі”.

Аб адзінаццатай гадзіне прыйшоў дырэктар і паведаміў, што вучні распускаюцца па хатах, а ў зьвязку з хуліганскімі дзеяньнямі пра аднаўленьне заняткаў будзе абвешчана ў газэтах.



**Яраслаў Гашак** (1883-1923), чэскі пісьменьнік, аўтар рамана “Прыгоды ўдалага ваякі Швэйка”, апавяданьняў, фэльетонаў. Апавяданьне “Дваццаць гадоў таму” напісанае ў 1917 г.

І вось насталі дні, поўныя раскошы. Увечары 31 лістапада я біў шыбы ў Нямецкім тэатры і ў многіх іншых месцах. 1 сьнежня зноў пабіў шмат шыбаў і дапамагаў таксама падпальваць агароджу пана Плешнэра, за што ад яго яшчэ атрымаў пяцьсот кронаў, бо ён даў у газэту абвестку, што той, хто навядзе на сьлед злачынцы, атрымае гэтую прэмію. (Я, пане Плешнэр, насіў тудой пляшкі з газай, бо вашыя мокрыя дзьверы ўсё ніяк не падпальваліся.)

Гэта былі райскія часы. Пасьля Плешнэравай агароджы я далучыўся да натоўпу, які йшоў граміць паліцэйскі пастарунак у Нусьлі. Дагэтуль я чую, як нейкі пажылы пан у цыліндры кажа мне прыязна, падаючы цагліну: “Вазьмі, хлопчычак, ды шпурляні ў арольчыка”.



У Нусьлі было, аднак, нудна, таму што не ўдалося нічога пабіць, бо там няма ніякіх немцаў. Тады мы пасунуліся ў Міхлі, дзе немец займаў вялікі маёнтак; я спазьніўся на падпальваньне сьціртаў. Мяне апярэдзілі дарослыя, ад чаго мне крыўдна дагэтуль, але спадзяюся, што я некалі гэта ўсё ж нараўняю.

Потым уначы мы вярнуліся ў Прагу, і новы натоўп, да якога я зноў далучыўся, ня меў што рабіць. Мне не пашэнціла. Да біцьця ўжо не было нічога, усё, што хоць трохі мела агульнага зь дзяржаўнымі ўстановамі і немцамі, было разьбітае. Эрэнтальскі палац гасілі, і мы мусілі абмежавацца толькі перарэзваньнем пажарных шлангаў. Там я зламаў свой сьцізорык. У Сьмечках я ўзяў удзел у пагоні за адным гімназістам, які схаваўся ў краму, але пазьней яго лінчавалі. Але там была такая штурханіна, што я тудой не прабіўся, ад чаго мне дагэтуль крыўдна, але ўсё ж спадзяюся, што таксама й гэта я некалі нараўняю.

На Карлаўскім пляцы ў парку былі нацягнутыя драты, драгуны падалі з коней. Людзі спрытна шпурляліся каменьнем і, памятаю, што я патрапіў аднаму паручніку ў галаву, ён з каня ня ўпаў, але разьвярнуўся і паскакаў прэч.

Дадому я вярнуўся позна і сказаў, што паўтараў з аднаклясьнікам Балікам геамэтрыю і грэцкую, што на вуліцы была “зачыстка”, так што я мусіў вярнуцца і пачакаць, пакуль усё сьцішыцца.

На наступны дзень, 2 сьнежня ў Празе было абвешчанае надзвычайнае становішча. Першую зьвестку пра гэта прынес брамнік, толькі ён усё трохі паблытаў і сказаў, што ў Празе абвешчанае дзяржаўнае становішча. “Урэшце мы, аднак, нечага дамагліся”, — казаў ён радасна. Наш брамнік быў непапраўны, чысты аптыміст.

Я ўспомніў, што маю й іншы абавязак па-за біцьцём шыбаў і шпурляньнем камянямі па драгунах, да чаго мяне, відавочна, давяла мая схільнасьць да мінэралёгіі.

Тады пасьля абеду я пайшоў у Вршовіцы да гандляра крамы “Прырода” пана Гафнэра, каб забраць купленую прафэсарам Гансгіргам калекцыю кварцаў і ў той жа час паглядзець, што робіцца на вуліцах, раптам давядзецца дзе-небудзь нейкаму немцу выбіць шыбу.

У гэтым сэнсе мне не пашэнціла. Абвешчанае брамнікам дзяржаўнае становішча аказалася паводле аб’яваў надзвычайным становішчам. Перад аб’явамі стаялі заўсёды дзьве асобы, таму што калі іх было тры, іх адразу разганяў паліцэйскі патруль, бо лацінскае прыслоўе кажа “Tres faciunt collegium”.[3] У пана Гафнэра справіўся з заданьнем. Ён аддаў мне некалькі ўзораў кварцаў для школьнай мінэралягічнай калекцыі, якімі я напхаў поўныя кішэні і рушыў дадому.

Ля Кліцпэравай вуліцы на Вінаградах стаяў ланцуг семдзесят трэцяга палка, недалёка ад ланцуга, як выклік, сабралася малая купка людзей з Вршовіцаў.

Конная паліцэйская варта якраз праяжджала па пляцы Палацкага. З купкі вршоўцаў нехта ў гэты момант шпурлянуў камень у ланцуг жаўнераў. Клянуся, што гэта быў ня я.

Паліцыя наехала на нас, паўстаў вэрхал, і перш чым я зразумеў, што адбываецца, то апынуўся пасярод вуліцы сам, а навокал толькі конная паліцыя.

Да мяне падбег пешы паліцыянт і абмацаў мне кішэні. Перш чым я яму мог патлумачыць, што справа тычыцца калекцыі мінэралаў, кола конных паліцыянтаў самкнулася вакол мяне. Дваццаць чытыры конныя паліцыянты вялі ў паліцэйскі пастарунак пятнаццацігадовага гімназіста.

Мая малая постаць гублялася сярод коннага эскорту. Я выглядаў, як кветка сярод крапівы.

Міма эскадрону бюракратычных руцінёраў і пасярод паліцэйскага эскадрону высакароднага выгляду юнак з цнатлівымі дзіцячымі вачыма, шчырым тварам і з кішэнямі паліто, абвіслымі ад усіх магчымых відаў мінэралаў.

Твары ўсіх дваццаці чатырох зьзялі ад задавальненьня.

На ходніку спыняліся людзі, глядзелі на прыгожую карцінку і нешта казалі. Чуў, як адзін немец, які ўжо набраўся сьмеласьці, прашыпеў: “Aufhängen!”[4], і як адна пані жаласна кінула другой: “Гэты ўжо ня ўбачыць Божага сьвятла, бо ж надзвычайнае становішча”.

Я таксама даведаўся ад аднаго паштальёна, які стаяў ля вуліцы Спаленай, прыгожую дэталь пра сябе: “Гэта той, што страляў па вршовіцкіх жаўнерних”.

І далей за намі паўсюль назіралі зь цікаўнасьцю. А эскадрон цягнуўся праз Фэрдынандаў пляц да паліцэйскага пастарунку. Дваццаць чатыры конныя паліцыянты захапілі пятнаццацігадовага гімназіста.

III

У паліцэйскім пастарунку мяне дапытваў пажылы дзядзька, які глядзеў строга і ўласнаручна выцягваў з маіх кішэняў мінэралы, пры чым урачыста раз-пораз пытаўся: “А гэта што, не камень, га?” Я адказваў: “Гэта крышталь, гэта марыён, гэта халцэдон, гэта чорны онікс, а гэта агат, косткавы халцэдон, а гэта карнэёл”.

Строгі дзядзька выпрастаўся, пакруціў вусы і сказаў грозным голасам: “А на гэты крышталь, марыён, халцэдон, онікс, агат і карніёл, на ўсё гэта ёсьць надзвычайнае становішча, куля ды пятля; адвесьці яго, Хвалоўскі”. Завялі мяне самотнага ў адзіночку з адным саламяным пюхціром.

Празь некалькі гадзінаў расчыніліся дзьверы і ў іх зьявіўся паліцыянт, лагодны на выгляд, сьсівелы на дзяржаўнай службе.

“Паслухайце, — сказаў ён дрыготкім голасам, — заўтра вас расстраляюць. Гэта вырашыць ваенны трыбунал. Ці маеце бацькоў?”

Я яму сказаў, што хацеў бы нешта паведаміць, каб ён даў мне аловак і кавалак паперы.

Ён выцягнуў нататнік, куды я напісаў адрас сваіх бацькоў і гэтыя радкі: “Дарагая мамачка! Не варыце заўтра ежу для мяне і не чакайце ў абед, бо я буду расстраляны. Пану прафэсару Гансгіргу скажыце, што пан Гафнэр у Вршовіцах мае на продаж для школьнай калекцыі прыгожую амэтыставую друзу, а замоўленыя мінэралы знаходзяцца ў паліцэйскім пастарунку. А калі прыйдзе мой прыяцель Война Гарнафу, дык Вы яму скажыце, што мяне вялі дваццаць чатыры конных паліцыянты. Калі адбудзецца маё пахаваньне, пакуль невядома”.

Калі ж гэта прачытаў лагодны, сьсівелы на дзяржаўнай службе паліцыянт, ён усхліпнуў, на вачах яго выступілі сьлёзы, і ён зьнік. Праз паўгадзіны мяне прывялі на допыт да паліцэйскага камісара Воліча.

На ягоным стале ляжаў мой ліст да бацькоў, і добра пан Воліч чулым голасам запытаў мяне: “Дык як усё было, малады чалавек?” Калі ж я яму ўсё патлумачыў, камісар Воліч, праглядаючы мінэралы, сказаў: “У мяне дома таксама ёсьць калекцыя мінэралаў. На мэтафіравым пласкагор’і ля Турнава і Ічына я знайшоў летась пад час адпачынку надзіва шмат агатавых і халцэдонавых пародаў. — Запхніце сабе гэтыя Вашыя кварцы ў кішэні і можаце ісьці дадому”.

IV

Нядаўна я прачытаў, што аднаго шаснаццацігадовага студэнціка засудзілі ў Пльзэні за нядаўнюю дэманстрацыю толькі на чатырнаццаць гадоў турмы.

Мяне хацелі дваццаць гадоў таму расстраляць як пятнаццацігадовага злачынцу.

“Багемія”[5] мае рацыю, калі скардзіцца, што цяперашні паліцэйскі рэжым у Чэхіі надта палагаднеў.

Пераклаў з чэскай Валеры Буйвал

1 “Да немцаў у Аўстрыі” (ням.).
2 “Варта на Рэйне” – нямецкі нацыяналістычны гімн.
3. Трое – гэта хаўрус (лац.).
4. Павесіць! (ням.).
5. Шавіністычная нямецкая арганізацыя ў тагачаснай Чэхіі.

***Ад рэдакцыі. У мінулым нумары не ўказанае імя перакладчыка “Амэрыканскага бэстсэлера” — Валянцін Дрозд. Рэдакцыя просіць у Валянціна прабачэньня і спадзяецца на далейшае супрацоўніцтва.***



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

